— *Каго любіш?*
— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

8 ЛІСТАПАДА 1996 г. № 45 (3869) Кошт 2 500 руб.



## АДКЛАД — НЕ ІДЗЕ НА ЛАД!

*Дарагія чытачы, падпіска на першае паўгоддзе 1997 года заканчваецца 30 лістапада. Значыць, часу ўжо засталося няшмат. Таму раім вам паспяшацца ў паштовыя аддзяленні, каб не спазніцца. Кажуць жа, што адклад не ідзе на лад. Будзьце з намі, а мы пастараемся апраўдаць вашы спадзяванні.*

*Кошт падпіскі на "ЛіМ" на адзін месяц — **10 000 рублёў**; на квартал — **30 000 рублёў**, на паўгоддзе — **60 000 рублёў**.*

**Індэкс — ранейшы: 63856.**



*Прысыпаны попел лістотай апалай*
*І ветрам развеяны дым і цяпло...*
*А гэтае дрэва нябёсы трымала,*
*Сябе ўратаваць ад бяды не змагло.*

*Фота А. МАЦЮША*

Адгалоскі

# "БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ"

Адзінагалоссе і згода пры абмеркаванні любых пытанняў на ўсемагчымых сходах, пленумах, з'ездах, канферэнцыях часоў дэмакратычнага цэнтралізму ВКП(б)-КПСС звычайна выяўлялася сталінскім сілагізмам: "Пытанні ёсць? Пытанняў няма і не павінна быць!" Падчас так званых хрушчоўскай "адлігі" і "спелага" сацыялізму часоў Брэжнева суладдзе і адабрэнне вечнаправільнага курсу адпавядала схеме "задачы ясныя, мэты вызначаны..."

Сённяшні дзень пацвердзіў, што Беларусь уступае ў "новую" фазу выяўлення ўсенароднай падтрымкі па формуле "Хто супраць? Устаць!" Менавіта так, у літаральным сэнсе, прэзідыум г. зв. першага ўсебеларускага сходу звярнуўся да шматтысячнай прапрэзідэнцкай зборні. Бо не ўсе дэлегаты прыслухаліся да прэзідэнцкай парады выкінуць "все это с головы", а таму некалькі прагаласавалі супраць выніковай рэзалюцыі. Такія неардынарныя адносіны да меншыні з боку арганізатараў сходу тлумачацца, мусіць, не столькі патрэбай выявіць непасрэдна тых адзінаццаць гаротнікаў, колькі жаданнем удасканаліць прадстаўнічае сіта. Арганізатараў вялікай гаманы, усеагульнай падазронасці і шпіёнаманіі, прэзідэнцка-студэнцкіх футболаў ды іншых палітызаваных відовішчаў наперадзе чакае вельмі адказная праца: селекцыя будучых дэпутатаў, сенатараў, канстытуцыйных і гаспадарчых суддзяў. У далейшым трэба вока ды вока!

Усе выступы "народных прадстаўнікоў" можна падзяліць на дзве групы. "Метал" у галасе вайскоўцаў-адстаўнікоў, працаўнікоў дзяржбяспекі і праваахоўных органаў трансфармаваўся ў звычайны пералік тых, хто выступае супраць прэзідэнцкіх навацый. Другую (і асноўную) групу выступоўцаў складалі тыя, хто рапартаваў аб ужо дасягнутых і непазбежных поспехах у будучыні. Рапартаманія настолькі захапіла "народам абраных і пасланых", што ўзнікала пытанне: а ці ўсвядомілі яны, дзеля чаго прыехалі на сход?

Як і належыць, асабняком стаялі выступы творцаў. Праўда, гэта былі не рамантызаваныя і бескарысліва адданыя беларускай культуры майстры сцэны, слова, пэндзля, у якіх натхненне і талент — дар Божы. Культурніцкую групу электарата прадстаўлялі толькі тыя, хто культуру тлумачыць у якасці падпоркі для існуючага палітычнага рэжыму. Менавіта з такой пазіцыі спрактыкаваны "падтрымач" прэзідэнта і на грамадскіх пачатках — тэатральны солтыс Беларусі с. Яроменка-старэйшы ў бліц-інтэрв'ю на сходзе ні з таго ні з сяго абвясціў, што А. Лукашэнку ён успрымае ў якасці свайго сына(!?). Такога роду сублімацыю (перанясенне) бацькоўскай пачуццёвасці нельга вытлумачыць нават рэактыўнасцю творцы. Няўжо дзеці легендарнага лейтэнанта ўжо састарыліся і прэтэндуюць цяпер на ролю таты для ўплывовых сыноў? Падумалася і іншае. А, можа, гэта спецыфічная споведзь і пакаянне загартаванага ліцадзея, адчуванне вінаватасці перад усенароднаабраным за свае колішнія кпіны з тады яшчэ кандыдата ў прэзідэнты? Бо Яроменка-старэйшы быў удзельнікам перадвыбарчай каманды В. Кебіча.

Сапраўды, адносіны "бацька—сын" у кантэксце культуры ёсць не толькі тыповая ролевая форма выяўлення адносінаў паміж пакаленнямі. Тут усё значна складаней. Вось, напрыклад, выступ на сходзе старшыні пастаяннай камісіі па адукацыі, навуцы і культуры Вярхоўнага Савета Беларусі тав. У. Плецюхова (нядаўняга прарэктара Брэсцкага педагагічнага універсітэта) якраз і засведчыў, як асобныя "бацькі і дзеці" разумеюць беларускую культуры. Асноўны заканатворца і вызначальнік духоўнай сферы Беларусі ўмудрыўся на сходзе ў сваёй прамове не толькі не ўпамянуць перспектыў развіцця, але і ўвогуле нават не згадаць аб існаванні беларускай адукацыі, культуры і мовы.

Слухаючы Уладзіміра Анесціевіча Плецюхова, рэаніматара артадаксальнага бальшавізму на Беларусі, успомнілася, што яшчэ падчас спроб пабудовы камунізму ў якасці ілюстрацыі інтэрнацыяналізму ў дзеянні лектары універсітэтаў марксізму-ленінізму і таварыства "Веды" прыводзілі вельмі папулярны прыклад: жыве і працуе ў Брэсце дацэнт-гісторык КПСС Анесцій Эмпедоклавіч Кайханідзі, спецыяліст па нацыянальных пытаннях і шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржаве. Ягоны інтэрнацыяналізм праяўляецца ўжо ў тым, што родам ён з Каўказа, лічаць яго грузінам, а сам сябе ён вызначае грэкам, а жонка ў яго руская...

Такога роду прыкладамі ідэалагічныя байцы падводзілі да высновы: вось гэта і ёсць узор савецкага чалавека будучыні. І пагэтаму натуральна, што Уладзімір Анесціевіч Плецюхоў (прозвішча па маці) інтэрнацыяналіст ад нараджэння. У газеце "Вечерний Брест" (N 37, 1996 г.) ён, напрыклад, выхваляецца тым, што менавіта ён ініцыіраваў у ВС прынятце Закона "о новой (чытай: лукашэнкаўскай) символике. Его "пробивал" я, и сделать это было нелегко". Трагічна, але здзек над усім беларускім як форма выжывання "інтэрнацыяналістаў-прафесіяналаў" стаў змрочнай традыцыяй у беларускай гісторыі. Фізік па прафесіі, савецкі камуніст па перакананнях і дзеяннях тав. Плецюхоў, напісаўшы сумесна з В. Стражавым брашуру аб рэлятывісцкіх (адносных) хвалевых ураўненнях, мусіць, засвоіў, што і ў сферы маралі ўсё адносна. То, мабыць, адсюль і маральная дваістасць старшыні парламенцкай камісіі па культуры: з аднаго боку падтрымка праекта Канстытуцыі "нармальнага мужыка" ў Вярхоўным Савеце і Палацы спорту, а з другога — нібыта і здаровы сэнс у разважаннях аб будучых прэзідэнцкіх сенатарах: "Что такое двухпалатная система в Беларуси? Это же смех!.. Кто войдет в верхнюю палату? Шестеро президентских "вертикальщиков" на местах плюс их заместители? Понятно, что это абсурд".

Бываюць жа ў вучоных мужоў азарэнні...

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**

# А Ў ЖУРЫ — ЖЫВЫЯ ЛЮДЗІ...



І Міжнародны конкурс музыкантаў-выканаўцаў "Фартэпіяна. Мінск-96" набліжаецца да фінальнага тура. Здаецца ж, толькі ўчора быў урачысты дзень адкрыцця: вызначэнне сярод спаборнікаў паводле "нумаркоў у чарзе на выступленне"; вячэрняя цырымонія ў філарманічнай зале; сімфанічны канцэрт...

Жыццё ёсць жыццё, і яно здатнае зрабіць недакладнай самую правераную інфармацыю. Аказалася, што па розных прычынах "не даехалі" да Мінска некалькі дзесяткаў замоўленых удзельнікаў конкурсу, — урэшце іх аказалася 83, а не 126. Аказалася, што "падараваны прэзідэнтам Беларусі цудоўны канцэртны раяль", пра які ўрачыста паведамілі ў эфіры, — амаль міфічная істота, бо са спецыяльнага прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі была дадзена для такой пакупкі буйная сума, аднак яе вырашылі "зэканоміць", і ў выніку набылі некалькі баянаў ды раяль выдатнай фірмы " Stainway", да якога ніхто не адважваўся дакрануцца. Чаму? Таму што купілі не канцэртны інструмент, а... кабінетны. Прыдатны да заняткаў у класе і бескарысны ў канцэртнай, выканаўчай практыцы. Яго нават не паставілі на сцэну. Вось такая закулісная пагалоска.

Але гэта — "хмурынкі" на ясным і яркім конкурсным небасхіле, дзе ўжо акрэсліваюцца новыя "зоркі". Імёны гэтых "зорак" мы будзем ведаць на пачатку тыдня. Прагнозаў рабіць не будзем, бо, зноў жа, — жыццё ёсць жыццё. Да таго ж, сустаршыня журы, знаны беларускі піяніст прафесар Ігар Алоўнікаў нечакана і слушна заўважыў, вітаючы ўдзельнікаў конкурсу на ўрачыстым філарманічным сходзе: зразумейце, маўляў, самі, што аб'ектыўнасць у дачыненні да такіх складаных з'яў, як музычнае выканальніцтва, — рэч досыць туманная. Журы, маўляў, складаецца з жывых людзей, якія эмацыянальна ўспрымаюць музыку, і калі конкурс — гэта барацьба для яго ўдзельнікаў, дык праца ў журы — таксама барацьба. Барацьба меркаванняў, успрыманняў, эмоцый...

Спаборнікам не варта думаць пра тое, як прайсці на наступны тур, як атрымаць прэмію. Галоўнае, каб у кожнага была проста любоў да музыкі. І — персанальныя творчыя дасягненні. А ў гэтым сэнсе плённы ўжо сам удзел у конкурсе. Чакаем 12 лістапада...

**С. Б.**

*На здымку: урачыстае адкрыццё; выступае старшыня аргкамітэта конкурсу першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір РЫЛАТКА.*

*Фота Г. СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

# ЛІСТ ДА ВЯСКОЎЦАЎ

З нагоды маючага адбыцца рэферэндуму Цэнтральная рада Беларускай сялянскай партыі звярнулася з лістом да сельскіх выбаршчыкаў. Рада заклікае іх удумліва паставіцца да вынесенай прэзідэнтам на ўсенароднае апытанне сваёй рэдакцыі канстытуцыі краіны. "Аляксандр Лукашэнка распрацоўваў гэтую канстытуцыю для сябе, — гаворыцца ў лісце, — яна дасць яму неабмежаваныя правы, што пагражае Беларусі дыктатурай... Па радыё, тэлебачанні, у афіцыйным друку выступае толькі лукашэнкаўская каманда, якая на ўсе лады расхвальвае прэзідэнцкі праект і зневажае праект канстытуцыі, прадстаўлены Вярхоўным Саветам. Чаму ж не даюць выказацца другому боку? Баяцца?"

Цэнтральная рада БСП папярэджвае вяскоўцаў, што прынятце фактычна новай канстытуцыі паглыбіць раскол у грамадстве, зробіць яшчэ горшай эканамічную сітуацыю ў краіне. "Прагаласаваўшы супраць усіх пытанняў рэферэндуму, вы будзеце ўпэўнены, што дзецям і ўнукам сваім не нашкодзіце", — такой фразай заканчвае Цэнтральная рада БСП свой зварот да вяскоўцаў.

Варункі

# ДЗВЕ ТЭМЫ

**Не так даўно былі мы з жонкаю і сынам у гасцях у сваіх сяброў. Яна — настаўніца, ён — вайсковец. Размаўлялі аб усім, але мне запомніліся дзве тэмы.**

**Яна распавяла, як дапамагала рускай дзяўчынцы-суседцы выканаць практыкаванне ў падручніку беларускай мовы: скласці сказ на тэму аб кастрычніцкай рэвалюцыі. Я гэтага падручніка не гартаў, і мы ўсе дружна смяяліся.**

**Нашая сяброўка — гісторык па адукацыі і таму сказ у яе атрымаўся такі: кастрычніцкая рэвалюцыя адбылася 7 лістапада 1917 года. Калі ж яна папрасіла мужа скласці свой сказ, той адказаў: мой дзядуля быў удзельнікам кастрычніцкай рэвалюцыі. Я задумаўся і прыйшоў да высновы, што мой адказ быў бы такі: 7 лістапада 1917 года — не самы лепшы дзень у гісторыі беларусаў. А мая жонка сказала, што яна ўвогуле змяніла б гэтае практыкаванне і не тлуміла дзецям галаву.**

**Я ніколі не любіў камуністаў. Але апошнім часам мне іх нават шкада. Вось гняўлівы імпэт Аляксандра Рыгоравіча абваліўся на іхнюю партыю і партыя, як той карабель, які наскочыў на міну, развалілася на два кавалкі. То яны ціхмяна сядзелі і адкрыта пацiралі рукі, калі прэзідэнт спрабаваў пракаўтнуць нацыянал-дэмакратыю, а зараз і самім не соладка.**

**А вось зараз у Мінску ім не дазволілі шэсце да Леніна. І што яны будуць рабіць — парушаць рашэнне выканкама і ісці, ці слухацца прэзідэнта (не сумняваюся, што гэта ягоная забарона) — не ведаю.**

**Другая ж тэма, на якую мы паразмаўлялі з сябрам-вайскоўцам, гэта, натуральна, скандальная адстаўка міністра абароны Мальцава. У колах беларускай інтэлігенцыі яго паважалі за тое, што той заўсёды ахвотна размаўляў па-беларуску. Мой сябра крытычна адгукнуўся аб ім як аб міністры — дазволіў скарачэнне войска да такой мяжы, за якой увогуле ці ёсць мэтазгоднасць яго трымаць, але, тым не менш, сказаў, што так звальняць міністра — найперш прынізіць самую пасаду.**

**Аб тым, што яго звальняюць — ведалі ў войску ўжо ўсе. І праблема была толькі — пасля чаго і калі. Вось, думалі, пасля ўзрываў на артскладах — не; пасля аўтакатастрофы з салдатамі — зноў не. І падлавілі-такі на юбілеі медінстытута, да якога міністр ніякіх адносінаў не меў. Можа, яму ўвогуле штонебудзь у шампанскае кінулі, пракаментаваў мой сябра.**

**Зараз на гэтую пасаду называюць трох верагодных прэтэндэнтаў: двух расійцаў — Чумакова і Паўлоўскага і аднаго беларуса, які праходзіць па крымінальнай справе ў суседняй Літве — Усхопчыка. Файны выбар.**

**Я б такое войска, сказаў іншы мой знаёмы, не тое што скараціў, а распусціў бы і набраў па-новаму.**

**Ды беларусы стараюцца не прымаць рэзкіх і адназначных рашэнняў. І хоць гэта ўжо не да акрэсленых тэмаў, але рашэнне Канстытуцыйнага суда, здаецца, пацвярджае найноўшыя даследаванні, што асноўны архетып беларусаў як нацыі — гэта багна. Зацягнуць і паступова ўтапіць — выпрабаваная тактыка, якая зусім не да сэрца няўрымсліваму і гарачаму прэзідэнту.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**





# СВЯТА БДУ

Беларускаму Дзяржаўнаму універсітэту споўнілася 75 гадоў. За гэты час праз яго аўдыторыі прайшло дзесяткі тысяч студэнтаў. Многія з колішніх выпускнікоў БДУ сталі гонарам нашай дзяржавы і іхнія імёны вядомыя не толькі ў нас, але і далёка ва ўсім свеце. Як ні ў адной з вышэйшых навучальных установ у БДУ сканцэнтравана асноўная колькасць высокакваліфікаваных кадраў: 211 дактароў навук і 927 кандыдатаў.

31 кастрычніка ў Тэатры оперы і балета адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 75-годдзю Белдзяржуніверсітэта. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, а таксама высокія госці з далёкага і блізкага замежжа.

*На здымках: студэнты другога курса факультэта прыкладной матэматыкі (злева направа) Алена Афанасьева, Дзмітрый Бярозавік, Ілля Лапуць і Вольга Міненка; выпускнікі БДУ розных гадоў.*

*Фота А.МІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

# ЦІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС?

## НАВАТ ВОРАГІ НАШЫ СПРЫЯЛІ ЗАХАВАННЮ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

***Зараз вядзецца ўзмоцненая прапаганда быццам бы непазбежнай неабходнасці поўнага далучэння Беларусі да "вялікага рускага народа". Пры гэтым даказваецца, што такім чынам будзе захаваны наш суверэнітэт. Тое ж вынікае і з тэксту артыкула "Навука ці фальсіфікацыя?" ("Звязда" ад 06.08.96 г.). Гэта ж неаднойчы сцвярджалася прадстаўнікамі нашай вышэйшай улады. Аднак у мінулым такія уніі, саюзы з братэрскімі славянскімі народамі Беларусь ужо мела. Яны пачыналіся з прыгожых слоў, а заканчваліся поўным знішчэннем нашай дзяржаўнасці.***

Гістарычны лёс нашай шматпакутнай Беларусі не проста складаны. З пэўнага часу ён быў скіраваны на поўнае знішчэнне дзяржаўнасці нашага краю і этнічнай самастойнасці беларускага народа, гэта значыць — на яго асіміляцыю і выкарыстанне ў інтарэсах дзяржаўзахопнікаў. І, як ні дзіўна, рабілі тое знішчэнне не якіясьці ворагі далёкага замежжа, а свае славянскія браты, суседнія народы — палякі і расійцы. Прытым вонкава ўсё выглядала вельмі прыстойна. Бо любы новы этап наступу на беларускі народ падаваўся як жаданне яму лепшага, як абарона ад чагосьці і, нават, амаль што ўратаванне. Пачыналася ўсё звычайна з братэрскіх саюзаў. Так, палякі пачалі свой наступ таксама з яднання з Беларуссю. У выніку доўгіх перамоў у 1385 годзе была падпісана спецыяльная "ўмова" (унія, якая зближала Вялікае княства Літоўскае з Польшчай" (Язэп, Найдзюк, Іван Касяк. "Беларусь учора і сёння". Мн., "Навука і тэхніка". 1993 г., стар. 42). Напачатку ўсё было добра. "Паводле гэтай умовы хатняе, унутранае гаспаданне ў кожным гаспадарстве заставалася асобнае, асобнае было войска, скарб, асобныя ўрады. Палякі нават не мелі права асядаць у Вялікім княстве Літоўскім і купляць тут зямлю" (там жа). Саюз хутка быў падмацаваны жаніцьбай Вялікага князя Ягайлы ў 1386 годзе з Польскай каралевай Ядвігай. Аднак паступова з прычын расійскіх ваенных наступаў на Вялікае княства Літоўскае польскі ўплыў на беларускіх землях павялічваўся, што прывяло ў 1499 годзе да "новых умоў з палякамі", а потым, у 1569 — да дадатковай Люблінскай уніі з Польшчай. Называлі яе вельмі прыгожа: "вольных з вольнымі і роўных з роўнымі". Захоўваліся пакуль што "асобныя ўрады, скарб і войска". Пакідалася права "карыстацца беларускаю моваю ў судзе і ўрадах" (там жа, стар. 65). Аднак ужо "Польшча і Вялікае княства становяць адно непадзельнае цэлае, маюць аднаго караля, аднолькавыя грошы, пасяляцца можна супольна ў абодвух краях". Толькі тое "непадзельнае цэлае" не атрымлівалася. У 1596 (па некаторых крыніцах, напрыклад, вышэй названая "Беларусь учора і сёння" — 1595 г.) была прынята Берасцейская (Брэсцкая) унія, прызначаная аб'яднаць каталіцкую і праваслаўную цэрквы на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Вядомы дарэвалюцыйны гісторык В. Ластоўскі ("Кароткая гісторыя Беларусі". Вільня. 1910 г.) называе гэтую дзею "вялікай абмылкай" (стар. 68), бо яна "была зусім няздатна для працы сярод беларусаў, бо не апіралася на нацыянальнае пачуццё народа". Таму ў 1696 (па Я. Найдзюку — у 1697) польскі "сейм пастанавіў беларускую мову выкінуць з дзяржаўнага ўжытку" (стар. 99). Аднак і гэтая мера не змагла даканаць беларускую мову. Больш таго, "пасля прыняцця уніяцкай царквой для выканання набажэнстваў той мовы, на якой гаварыў народ, калі пачаў рабіцца ўпор на нацыянальныя здабыткі, уніяцтва пачало пашырацца на Беларусі і паступова пераўтварацца ў найбольш распаўсюджаную плынь хрысціянства на Беларусі" (В. Голубеў, У. Крук, П. Лойка. "Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны?". Мн., "Народная асвета". 1995г., стар. 42). Такім чынам, саюз з заходнім, самым блізкім славянскім братам, першапачаткова пададзены як унія "вольных з вольнымі і роўных з роўнымі", звёўся ў рэшце рэшт да імкнення цалкам асіміляваць беларускі народ праз знішчэнне Богам дадзеных каранёў у выглядзе мовы і самабытнасці. Як вядома, тое зладзейства не адбылося. Але шкода для душы народа ад усіх тых уній была вялікай.

Зазірнём крыху ў гісторыю адносін з "усходнім братам". Бо вельмі ўжо яму хацелася "пажаніцца" назаўжды з Беларуссю. Канчатковая мэта ў гэтым памкненні была такая ж самая, як і ў палякаў: зрабіць сваім краем, "абрусіць". Толькі метады выкарыстоўваліся іншыя — ваенны гвалт. Па-сапраўднаму пачаўся ён яшчэ ў 1500 годзе і цягнуўся амаль што 300 гадоў. І быў страшэнным. Вось што гісторыя піша аб выніках аднаго з перыядаў той бойні, што звязаны з "Невядомай" вайной 1654—1667 гадоў" (Генадзь Сагановіч. Мн., "Навука і тэхніка". 1995 г. стар. 130—134). "На Беларусі ў межах прыкладна сучаснай тэрыторыі колькасць насельніцтва зменшылася на 53 працэнты... Некаторыя гарады, здавалася, абязлюдзелі назаўжды, бо страты жыхароў... перавысілі, напрыклад, 93 працэнты ў Полацку, 94 — у Віцебску, 98 — у Вяжышчах". Лепшыя з ацалелых былі перамешчаны ў Маскоўшчыну, каб працаваць на яе. Так, "калі на пачатку XVII стагоддзя ў Магілёве было за 2 тысячы рамеснікаў, дык у 1745 г. — толькі 95". Такая "татальная дэструкцыя змяніла ўсё — ад матэрыяльных умоў жыцця да сацыяльнай структуры насельніцтва, ад моўна-культурнай і канфесійнай сітуацыі да этнапсіхікі і нацыянальнага генафонду наогул". "Беларусы сталі народам з непаўнапраўнай, няпоўнай сацыяльнай структурай грамадства, што не магло не перадацца ў наступныя пакаленні. Завяршыла той "братэрскі разбой "Вялікая прасветніца" Кацярына ІІ, якая ў сваім маніфесце ад 13.04.1793 г. (пасля другога падзелу "Польшчы" — аўт.) крывадушна пісала, што ўсё тое рабілася дзеля карысці беларускага народа. Каб даць яму магчымасць "достигнуть до совокупления под единою державою с единоплеменным им российским народом и соделаться соучастниками блаженства, славы и величия, которыми нынче монархия наша, в мире процветая, наслаждается". Відаць, дзеля таго "блажэнства, совокупления и наслаждения" ў 1839 годзе царскім указам "забаранялася ўжываць беларускую мову ў цэрквах і касцёлах, бо дагэтуль казанне для простага народа заўжды вялося па-беларуску" (Ю. Ластоўскі. "Кароткая гісторыя Беларусі". Вільня. 1910 г., стар. 97). Да гэтага ж, у 1836 годзе, Мікалай І выдаў указ "аб увядзенні выкладання на рускай мове ва ўсіх навучальных установах Беларусі". Канчаткова ж беларускай мове быў вынесены смяротны прысуд царскім указам 1867 года аб забароне беларускага друку. Стварэннем "Северо-Западного края" Беларусь сціралася з карты Еўропы.

Злачынны наступ русіфікацыі ў Беларусі завяршыла савецкая сістэма. Яна нават усёй сваёй сутнасцю вынішчала карані беларускасці. І зноў тут рашучая роля належала "русскому брату", прадстаўнікі якога напраўляліся ў Беларусь кіраваць нашым народам так, каб знішчыць і дух беларускі.

Вось такімі былі вынікі братэрскіх саюзаў Беларусі з суседнімі славянскімі народамі.

Паглядзім цяпер, як жа адносіліся да нашага народа некаторыя дзяржавы Еўропы.

Напалеон, "заняўшы Беларусь, І. VII. 1812 г. абвясціў указ, паводле якога мела паўстаць Вялікае княства Літоўскае з асобным, зусім незалежным ад Варшавы ўрадам". Гэта значыць, што стваралася нацыянальная краіна з захаваннем самабытнасці, мовы і прыроды, закладзеных зыходных рысаў. Аднак пасля паражэння Напалеона Расія паскорыла мерапрыемствы па поўнай русіфікацыі беларускага краю. Пачаўся ўзмоцнены адток лепшых прадстаўнікоў беларускага інтэлекту на служэнне Расіі.

У час Першай сусветнай вайны ў "пачатку 1916 года германскі фельдмаршал Гіндэнбург у загадзе аб школах у акупацыйным краі абвясціў беларускую мову раўнапраўнай" з польскай, літоўскай і яўрэйскай мовамі. На акупіраванай тэрыторыі былі адчынены беларускія школы, створаны выдавецтвы. Пачалося выданне на беларускай мове газет і часопісаў. У Вільні быў створаны "Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны", "Беларускі клуб", згуртаванне "Золак", "Навуковае таварыства", "Беларускі вучыцельскі саюз" і інш. ("Настаўніцкая газета", ад 28.10.1995 г.).

У час Другой сусветнай вайны на акупіраванай фашысцкімі захопнікамі беларускай тэрыторыі працавалі ўсюды, дзе не было ваенных падзей, школы, у якіх выкладанне вялося на беларускай мове. Было і некалькі другіх навучальных установ гуманітарнага накірунку, таксама з беларускамоўным навучаннем.

"Пасля капітуляцыі Нямеччыны 7.5.1945 года акупацыйныя ўлады дазволілі ўсім чужынцам, якія апынуліся на тэрыторыі заходняй Нямеччыны і Аўстрыі, арганізаваць свае Нацыянальныя Камітэты... і ДП-лагеры (Displaced Persons — для пераселеных асоб). Па розных прычынах там апынулася вельмі вялікая колькасць беларусаў з сем'ямі, якія не пажадалі вяртацца ў СССР. Для іх былі створаны ў неабходнай колькасці дзіцячыя садкі, пачатковыя школы, гімназіі і школы для дарослых. І самае галоўнае ў тым, што класы працавалі нават тады, калі ў іх мелася залічанымі толькі па некалькі дзяцей. Так, у "ДП-лагеры Шляйсгайм" у 1947 годзе працавала школа з наступнай колькасцю вучняў: у 1-м класе — 2, у 2-м — 5, у 3-м — 4, у 4-м — 1. Як бачым, агульная колькасць вучняў складала ўсяго 12 дзетак (Алесь Вініцкі, "Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах").

Адзначаныя школы мелі і яшчэ адну яскравую асаблівасць. Яна ў тым, што ні ў першым, ні ў другім класах пачатковых школ на нямецкую і англійскую мовы не адводзілася ні адной гадзіны. Затое родная мова вывучалася 9 гадзін у першым і 11 — у другім класах. Нямецкая мова (далёкая па сутнасці ад беларускай) вывучалася толькі па 2 гадзіны ў тыдзень толькі з 2-га класа. З трэцяга класа па 2 гадзіны адводзілася і на гісторыю Беларусі, але — ні адной на гісторыю Нямеччыны. Параўнаем адзначанае з тым, што маецца ў сучасных школах Беларусі. Звернем увагу толькі на тое, што нават у нешматлікіх беларускіх класах з першага класа вывучаецца паралельна і руская мова. І адзначанае робіцца пры панаванні "могучего всепоглощающего русского языка" ў навакольным асяроддзі, пры блізкасці моў, пры тым, што некаторыя аднолькавыя словы маюць розны сэнс, а напісанне правільна многіх слоў па-беларуску ўспрымаецца як памылка па-руску. Вынікі такіх дзеянняў прадбачылі нашы ворагі, але не разумеюць вярхоўныя ўлады нашай краіны. Ці маюць яны ўяўленне аб тым, што нацыі, як і іх мовы, створаны Богам? Знішчэнне ж любога віду Боскага стварэння — злачыннасць сусветнага маштабу.

Дык ці прыйдзе час, калі 96 артыкул нашай Канстытуцыі будзе сфармуляваны наступным чынам: "Прэзідэнтам (як і Старшынёй Вярхоўнага Савета, кіраўніком урада, міністрам любога міністэрства) можа быць абраны грамадзянін Рэспублікі Беларусь не маладзейшы за 35 гадоў, які афіцыйна і кваліфікавана карыстаецца беларускай мовай, ведае і паважае гісторыю нашай краіны, мае намер і здольнасці працаваць на яе суверэннае развіццё, робіць і будзе далей рабіць усё неабходнае для ўзняцця гонару беларускага народа і для яго жыццядзейнасці ў адпаведнасці з беларускай ідэяй".

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар**

# ЦІ АДРАДЖАЕЦЦА "СПАДЧЫНА"?

## ПРАБЛЕМЫ РАСПАЎСЮДЖВАННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КНІГІ

У апошняе дзесяцігоддзе на Беларусі назіраецца прыкметны ўсплеск цікавасці да нацыянальнай гістарычнай і культурнай спадчыны. Разнастайныя пытанні, звязаныя з яе адраджэннем, сталі прадметам дыскусіі ў нашым грамадстве і неаднаразова абмяркоўваліся гісторыкамі і палітыкамі, філосафамі і культуролагамі, настаўнікамі і бібліятэкарамі...

Каб акрэсліць агульныя напрамкі развіцця культуры на Беларусі, у 1989 г. была распрацавана і ўпершыню апублікавана рэспубліканская комплексная праграма адраджэння нацыянальнай культуры пад назвай "Спадчына". У рабоце над ёю прымалі ўдзел Інстытут мастацтвазнаўста, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, Міністэрства культуры, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, іншыя ўстановы і грамадскія арганізацыі. Праграма адраджэння культуры цесна ўзаемазвязана з праграмай "Роднае слова", якая накіравана на адраджэнне беларускай мовы. Практыка існавання і дзяржаўнай падтрымкі праграм, звязаных з захаваннем і трансляцыяй здабыткаў нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны, з'яўляецца звычайнай для большасці краін свету (напрыклад, "Памяць Амерыкі" ў ЗША). Прыняцце аналагічнай ім па сэнсе айчыннай праграмы сутыкнулася з пэўнымі цяжкасцямі. Нягледзячы на тое, што ўжо існуюць дзве рэдакцыі праграмы (1989 і 1990 гг.), работа над ёю так і не завершана, а канчатковы варыянт, на жаль, да сённяшняга дня не зацверджаны і не апублікаваны.

Комплексная праграма "Спадчына" з першых дзён з'яўлення выклікала вялікую зацікаўленасць шырокіх колаў грамадства Беларусі. Амаль усе напрамкі "Спадчыны" маюць дачыненне да кнігі і звязаны з дзейнасцю такіх сацыяльных інстытутаў, як бібліятэка, кніжнае выдавецтва, школа і інш. 5—6 чэрвеня 1991 г. адбылася навукова-практычная канферэнцыя пад назвай "Бібліятэка і нацыянальная праграма "Спадчына", якая абмеркавала праект гэтай праграмы і першыя крокі яе рэалізацыі ў бібліятэках рэспублікі.

Згодна першаму напрамку "Спадчыны", які прадугледжвае пошук, захаванне і адраджэнне спадчыны, неабходна стварыць на Беларусі фонд нацыянальнага дакумента. У гэтай справе цесна пераплятаецца дзейнасць выдавецтваў і бібліятэк рэспублікі. Сёння бібліятэка пераўтвараецца ў цэнтр нацыянальнай памяці свайго народа. Гэты працэс немагчымы без аднаўлення фонду беларускай кнігі ў бібліятэках розных тыпаў. Але трэба адзначыць, што тут яны сутыкаюцца з масай праблем. Так, з аднаго боку, у апошнія гады ў чытачоў нязменна расце попыт на беларускую кнігу. Бібліятэкары-практыкі адзначаюць пастаянны рост колькасці чытачоў, запісаных у бібліятэкі. Павялічваецца доля беларускамоўных выданняў у коле чытання. Узрастае колькасць даведак, тэматычна звязаных з Беларуссю. З другога боку, фонд нацыянальнай кнігі даводзіцца амаль што ствараць нанава. У фондах бібліятэк рэспублікі, па апошніх звестках, беларускамоўныя выданні складаюць 17,2%. Наўрад ці існуючую лічбу можна лічыць прымальнай. Але сучасныя тэмпы выдання застаюцца значна меншымі, чым у канцы "застойных" 70-х ці ў параўнанні з усплескам нацыянальнага выдання ў 30-я гады.

Большасць кніг на беларускай мове, што знаходзяцца сёння на паліцах бібліятэк, — гэта несучасныя, часам састарэлыя выданні. Каб набыць новыя, востра неабходныя чытачам кнігі, бібліятэкам катастрафічна не хапае сродкаў. У апошні час публічныя бібліятэкі ўжо прызвычаіліся да таго, што яны камплектуюцца 1-2 разы ў год. Асабліва цяжкая сітуацыя склалася сярод дзіцячых бібліятэк, якія не маюць магчымасці самастойна палепшыць эканамічнае становішча, праз увядзенне платных паслуг, бо іх чытачамі з'яўляюцца дзеці.

Чытачам не хапае сучасных змястоўных выданняў па гісторыі, этнаграфіі і фальклоры, мове і літаратуразнаўстве, мастацтве Беларусі. Не задаволены поўнасцю попыт на творы мастацкай літаратуры, з-за таго, што кнігі многіх пісьменнікаў раней свядома не выдаваліся або выходзілі мізэрнымі тыражамі (Цётка, К. Каганец, М. Зарэцкі і інш.) Застаецца актуальнай праблема недахопу даведачных і энцыклапедычных выданняў, беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўнікаў па розных галінах ведаў. Самы абяздолены чытач — гэта дзеці. У Мінску і іншых буйных гарадах Беларусі зараз з'явіліся шматлікія гімназіі, ліцэі, каледжы. Іх навучэнцам, якія займаюцца па пашыраных праграмах, неабходна адпаведная літаратура. У дзіцячых бібліятэках не хапае навукова-пазнавальнай і краязнаўчай кнігі, асабліва для малодшых школьнікаў. Многія кнігі патрабуюць тэрміновага перавыдання. Вось і атрымліваецца "замкнёнае кола" праблем з фарміраваннем на практыцы фонду нацыянальнага дакумента.

У адпаведнасці з другім напрамкам праграмы "Спадчына", які ставіць задачу "падрыхтаваць насельніцтва да ўспрымання культурнай спадчыны", бібліятэкі імкнуцца распаўсюджваць і папулярызаваць нацыянальную кнігу. У бібліятэках гучыць беларуская мова. На ёй вядзецца абслугоўванне і запіс чытачоў, а таксама каталогі і картатэкі, якія па змесце маюць дачыненне да Беларусі. Пры бібліятэках дзейнічаюць краязнаўчыя гурткі і суполкі, курсы па вывучэнні беларускай мовы. Адчыніў свае дзверы Тэатр кнігі ў Слоніме. Бібліятэкі імкнуцца праводзіць разнастайныя і цікавыя масавыя мерапрыемствы, каб пазнаёміць сваіх чытачоў з беларускай культурай, мастацтвам, гісторыяй. Традыцыйна ладзяцца творчыя сустрэчы, літаратурныя вечарыны і літаратурна-музычныя гасцёўні, разнастайныя выставы. У апошнія гады робіцца акцэнт на выкарыстанне ў ходзе мерапрыемстваў займальных і гульнёвых элементаў, якія асабліва падабаюцца дзецям. У практыцы работы бібліятэк з'явіліся разнастайныя фальклорныя святы ("Каляды", "Гуканне вясны", "Дажынкі" і інш.), гульні-падарожжы, КВЗ, дзень беларускіх казак і г.д. Адметнай рысай нашага дня стала арганізацыя ў бібліятэках сумеснага адпачынку дзяцей і бацькоў.

У час, калі разбураны старыя ідэалы і адбываецца пераацэнка каштоўнасцей, вяртанне да вытокаў культуры беларускай нацыі і лепшых здабыткаў яе шматвяковай гісторыі стала для работнікаў устаноў культуры прыярытэтным напрамкам і значнай састаўной часткай штодзённай працы.

**Ю. БОЛАТАВА,**
**супрацоўніца нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

## ПЕРШЫ СЯРОД БАЛГАРАЎ

звярнуўся да перакладу твораў беларускай літаратуры Ангел Тодараў. Адбылося гэта ў 1930 годзе, калі ён пераўвасобіў па-балгарску верш А.Александровіча "Сасна". У 1934 годзе А.Тодараў пераклаў яшчэ адзін яго верш "Пагранічная вясна". А.Тодараў з'яўляецца аўтарам артыкулаў і рэцэнзій пра беларускіх пісьменнікаў, нашу літаратуру. У прыватнасці, у 1965 годзе выступіў з артыкулам "Пра раман І.Шамякіна "Сэрца на далоні". Пасля наведвання Беларусі напісаў вершы "Мінск", "На радзіме Я.Купалы", "Нарач"... Яго ж творы на беларускую мову перакладалі Н.Гілевіч, М.Калачынскі, А.Канапелька, В.Нікіфаровіч.

З дня нараджэння нашага балгарскага сябра споўнілася 90 гадоў. Ён пражыў вялікае і змястоўнае жыццё (памёр у 1995 годзе). Вядомы як паэт, пісаў апавяданні, нарысы, фельетоны, памфлеты.

## ЯК ЖЫВЕЦЦА ВАМ, ЖАНЧЫНЫ І ДЗЕЦІ?

Падрыхтаваны Нацыянальны даклад аб становішчы жанчын і дзяцей у нашай краіне, які пад назвай "Дзеці і жанчыны Беларусі. Сёння і заўтра" пабачыў свет у Выдавецкім доме "Прынтэкс". Шматлікія аўтары асэнсоўваюць тое становішча, у якім апынулася гэта праслойка грамадства, робяць абагульненні, прагназуюць сітуацыю. Прадмову напісаў намеснік старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь У. Русакевіч.

## ПАЗНАЁМІМСЯ З ПАРТЫЯМІ

Аддзел навуковай інфармацыі па гуманітарных навуках Акадэміі навук Беларусі рэгулярна выпускае зборнік "Беларусістыка". Гэтым разам ён выйшаў пад назвай "Палітычныя партыі і грамадска-палітычныя рухі Беларусі". У матэрыялах, прадстаўленых у кнізе, можна знайсці звесткі пра розныя палітычныя групоўкі, што дзейнічаюць на сённяшні дзень у нашай краіне.

## СІМВАЛ ПЕРАМОГІ ДАБРА НАД ЗЛОМ



Ля Мінскага касцёла св. Сымона і Алены (Чырвонага касцёла) напрыканцы верасня ўстаноўлены помнік з надпісам: "Абаронцам Бога, Веры і Хрысціянства". Памер помніка — 4,5 метра ў вышыню, 3 метры ў дыяметры, вага — 3 тоны. У якасці эскіза аўтар Віктар Голубеў скарыстаў малюнак з Бібліі (выдадзенай Францыскам Скарынам), на якім анёл — архангел Міхаіл — забівае кап'ём змея, што сімвалізуе перамогу дабра над злом. Адліў з металу анёла Алег Багданкевіч.

*Фота А. МАЦЮША*

***Асноўныя паняцці літаратурнай крытыкі ў большасці сваёй лічацца агульназразумелымі. І калі ты прэтэндуеш на пэўны ўзровень інтэлекту і эрудыцыі, нібыта няёмка нават выказваць сумнеў ва ўсвядомленасці такіх паняццяў. Паспрабуй сказаць, што не ведаеш, што такое літаратура, ці што такое фальклор, ці... кан'юнктура? Якое невуцтва!***

***І трэба, напэўна, больш за многіх ведаць, каб прызнацца: "Ведаю, што нічога не ведаю".***

***Сапраўды, што такое літаратура? Што такое кан'юнктура ў літаратуры? Што аднесці да літаратуры "бульварнай" і ці правамоцнае ўвогуле апошняе вызначэнне? Дзе і калі пра гэта пісалася, гаварылася ў нас? Госці, якія ў чарговы раз сабраліся за гарбатай у Шніпоў, сваімі часам парадаксальнымі разважаннямі нейкім чынам запаўняюць гэтую "культурную нішу". Няхай і са спазненнем у параўнанні, скажам, з літаратурнай крытыкай Расіі, дзе падобныя пытанні дыскутаваліся ў "Литературке" яшчэ ў 80-х гадах, але затое ў кантэксце беларускай культуры і без налёту афіцыйшчыны. Тэма, прапанаваная гаспадыняй "літсалона" Людмілай Рублеўскай, нават мадэрнова рыфмуецца: "Актуальнасць, кан'юнктура і бульварная літаратура". А пілі гарбату, якую разліваў гаспадар Віктар Шніп, наступныя асобы: загадчык кафедры славістыкі БДУ, крытык і перакладчык Іван Чарота, філосаф, тэарэтык літаратуры і рэдактар вядомага літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО" ў газеце "Культура" Валянцін Акудовіч, малады крытык Ірына Шаўлякова, празаік Барыс Пятровіч і паэт, філосаф, адзін з "арганізатараў літаратуры" (па вызначэнні мінулай гаворкі) Ігар Бабкоў. І вось якая гаворка атрымалася.***

ЗА ГАРБАТАЙ У ШНІПОЎ

# МІЖ КОМІНАМ І СМЕТНІКАМ

*— Уся літаратура — кан'юнктура.*
*— Нішто ў літаратуры не кан'юнктура.*

**Людміла Рублеўская.** Думаецца, размову добра было б пачаць з вызначэння катэгорый актуальнасці, кан'юнктуры і бульваршчыны. Бо калі з актуальнасцю больш-менш зразумела, кан'юнктура, хаця і мае розныя азначэнні, таксама паняцце ўсведамляльнае, дык наконт бульварнай літаратуры ўвогуле азначэння не існуе, і Адам Глобус, якога таксама запрашалі прыняць удзел у нашай гаворцы, сказаў, што ўвогуле не ведае, што такое "бульварная літаратура". Мне здаецца, што я гэта ведаю, але, можа, і памыляюся. Магчыма, усю літаратуру можна раскласці на гэтыя тры паліцы, вылучыўшы яшчэ чацвёртую...

**Ірына Шаўлякова.** Я думала, што мне, прынамсі, філфак растлумачыў паняцце кан'юнктуры. Адкрываю слоўнік іншамоўных слоў і чытаю: "кан'юнктура — гэта становішча, абставіны, якія склаліся ў той ці іншай галіне грамадскага жыцця і якія ўплываюць на ход якіх-небудзь падзей, спраў". Але ж актуальнасць, выходзіць, тое самае! А з другога боку, у нашым асяродку сказаць на літаратурны твор, што ён кан'юнктурны, усё роўна што абляяць. Прынамсі, для творцаў, якія прэтэндуюць на элітарнасць, вытанчанасць. Атрымліваецца, што актуальнасць — гэта добра, а кан'юнктура — дрэнна. Хаця этымалогія назвы ўключае ў сябе дзве магчымасці ўспрымання — і станоўчую, і адмоўную.

**Валянцін Акудовіч.** Як мне здаецца. паняцці кан'юнктура і бульварная літаратура не актуальныя ў кантэксце нашай літаратуры. Кан'юнктурных твораў у нас не можа быць. Як я разумею, кан'юнктурны твор — той, які адпавядае пануючай ідэалогіі. А сёння ў нас на Беларусі пануючай ідэалогіі няма.

**Л.Рублеўская.** Вы забываеце такі момант, як чытацкі попыт, спроба выйсці на рынак. Гэта таксама кан'юнктура! І тут мусім казаць аб праблеме бульварнай літаратуры...

**В.Акудовіч**. А я скажу, што ў нас няма праблемы бульварнай літаратуры. Бо на беларускай мове бульварнай літаратуры няма.

**Л.Рублеўская.** Але ж былі і ёсць спробы яе стварыць...

**В.Акудовіч.** Так, у перыяд нацыянальнага рамантызму, калі гаварылі: давайце будзем пісаць фантастыку і дэтэктывы на беларускай мове, каб папулярызаваць яе... Але беларуская сітуацыя такая — хоць ты пішы, як Джойс, хоць як Бероўз, усё роўна па-беларуску чытаць цябе не будуць.

**Л.Рублеўская.** Прысутныя памятаюць зборнікі "Літаратура", што выходзілі колькі год таму самадрукам. У іх была і эротыка на мяжы з парнаграфіяй, і постсавецкая "чарнуха", і інтэлектуальныя "выбрыкі"... Гэта бульваршчына, кан'юнктура?

**Барыс Пятровіч.** Гэта былі пачаткі дысідэнцкай літаратуры на Беларусі...

**І.Шаўлякова.** Дысідэнцтва ў свой час было разнавіднасцю кан'юнктуры.

**Іван Чарота**. Слоўнік тлумачыць разумней за ўсіх нас. Думаю, тэрмін уключае ў сябе і паняцце актуальнасці, надзённасці. Існуе ідэалагічная кан'юнктура, прычым агульнапалітычная, бо атмасфера ў нашым грамадстве неаднастайная, і кан'юнктурнасць неабавязкова афіцыёзная, яна можа адрасавацца да іншай грамадскай праслойкі. Кан'юнктура можа працаваць не толькі на "за"-стаянне, але і на "супраць"-стаянне. Не толькі ў імкненні да "карыта", але і ў пазіцыі — "не хачу вашага карыта", у абвінавачваннях: "прыкарытнікі — вы!"

**Б.Пятровіч.** У прынцыпе, уся літаратура — кан'юнктура. Бо, у рэшце рэшт, не важна, каму пісьменнік хоча дагадзіць: уладам, чытачам ці... самому сабе.

**І.Шаўлякова.** У такім выпадку, ці не магчыма размежаваць кан'юнктурную літаратуру наступным чынам: калі яна зроблена на нізкім мастацкім узроўні, гэта бульварная літаратура, калі на досыць высокім — актуальная. І хаця Валянцін Васільевіч сумняваецца ў існаванні бульварнай літаратуры, я зусім нядаўна яе чытала. Увечары, страшна стомленая, выпадкова разгарнула кніжку "пра каханне", 386 старонак. Думала, пачытаю перад сном крыху. І вось з адзінаццаці вечара да трох гадзін ночы я не магла адарвацца ад гэтага "чціва", пакуль не дайшла да канца... І вось апошняя старонка, развязка інтрыгі... І заключная фраза: "Она поцеловала его з такой страстью, что он даже хрюкнул от удовольствия"... Вам смешна, я расчаравалася. А ў прынцыпе, каб той самы сюжэт быў напісаны больш высокім стылем і канчаўся філасофскім рэзюме, я б казала — якая добрая кніжка...

**Л.Рублеўская.** Усё-ткі бульварная літаратура — менавіта тая літаратура, якая вызначае духоўнае жыццё народа, якая той народ, так бы мовіць, замбіруе. Гэта агромністае кола літаратуры, якое зацягвае ў сябе. Як мы, пад'еўшы, хочам печыва ці цукерачку, так, абавязкова-павучальна спажыўшы хлеба класікі, разгортваем "Анекдоты" ці дэтэктыў.

**Б.Пятровіч.** У такім выпадку не трэба гаварыць пра літаратуру наогул. Уся французская літаратура, ад Бальзака да Жуль Верна, была бульварнай, а пасля стала класікай.

**В.Акудовіч.** Я хацеў бы папытацца: літаратура — гэта тое, што чытаюць? Ці тое, што не чытаюць масы, але чытае элітарнае кола?

**І.Чарота.** Для мяне літаратура — тое, што прадвызначана першым вершам Евангелля ад Іаана: "Спачатку было Слова і Слова было ад Бога, і Слова было Бог". Усё, што не адпавядае гэтаму — ужо нешта іншае.

**Л.Рублеўская.** У Верасаева ёсць апавяданне "На эстрадзе". Там папулярны пісьменнік, які праславіўся апавяданнямі з жыцця "народных нізоў", як бы мы цяпер сказалі, "чарнухай", такім чынам адказвае на захапленні свецкага натоўпу: "Чаму вы мне апладзіруеце? Чаму вам так спадабалася тое, што я пішу? Бо літаратура выконвае ролю буфера між вамі і сапраўднымі пачуццямі, якіх вы ніколі не адчуеце — у сілу свайго сацыяльнага становішча, ці псіхалагічнай абмежаванасці. Але вам гэтыя пачуцці патрэбныя. Вы іх прагнеце. І вось апасродкавана, праз літаратуру, вы іх можаце атрымаць, як піружныя, у прыгожай упакоўцы"...

**В.Акудовіч.** Але ж тут ужо было сказана, што бульварная літаратура — гэта і чыстае-чыстае каханне...

**Л.Рублеўская.** Перш за ўсё пагодзімся — гэта ўсе тыя пачуцці, якіх чытач не атрымае ў рэальным жыцці — і чыстае, узнёслае каханне, і рэвалюцыйныя буры, і крымінальныя разборкі... Дзеля чаго і чытаюцца кніжкі.

**І.Чарота.** Літаратура — ніяк не ўсё, што мы чытаем. Напрыклад, у маладосці я калекцыяніраваў насценныя надпісы. І меў добрую калекцыю. Прычым сярод тых "твораў" былі "перліны". Аднак літаратурай я гэта не лічыў ніколі. Нават пазней даведаўшыся, што ў Славеніі напісана дысертацыя на гэтую тэму...

**В.Акудовіч.** Ваша сістэма базуецца на этыцы. Я думаю, што тое, што мы называем літаратурай, узнікла як апазіцыя дагматычнай рэлігійнай літаратуры.

**І.Чарота.** Вы пярэчыце сам сабе, бо мінулы раз казалі, што калі напісана Біблія, што яшчэ можна напісаць? Уся літаратура, у любога народа, ішла ад сакральных тэкстаў, з апірышчам на этыку. Але пасапраўднаму ў іх не разлучалася этычнае і эстэтычнае.

**В.Акудовіч.** Вы выключылі з паняцця літаратуры самае асноўнае — эстэтычнае. Я выключаю этычнае... І ўсё-такі хачу зразумець: чаму "бульварная літаратура" — гэта не літаратура, а Гётэ — літаратура. Тут я гэтага яшчэ не пачуў.

**І.Шаўлякова.** Гэта тое самае, калі гаварыць ад імя народа, а тыя, хто не згодны — не народ. Усё, вамі названае, літаратура. Існуюць розныя плоскасці яе існавання з рознымі крытэрыямі ацэнак. Проста ў нас літаратуразнаўчы снабізм.

**І.Чарота.** Кажучы пра слова ад Бога, я меў на ўвазе і інтэлектуальнае, і этычнае, і эстэтычнае, і эмацыйнае. Знайдзіце больш эмацыйны твор, чым псалмы. Дык вось, калі і духоўнае, і эмацыйнае, і інтэлектуальнае, і эстэтычнае спалучаецца — гэта літаратура.

**В.Акудовіч**. Уся розніца ў тым, што літаратуру чалавек піша як літаратуру, для самавыяўлення. Ён не ведае, што ў яго атрымаецца. Будуць чытаць ці не — гэта ўжо другасна. А бульварную аўтар піша, ведаючы, што менавіта піша. Запытайцеся ў тых, хто піша па заказе бульварныя раманы. Яны свядома пішуць па канонах гэтай літаратуры. Бульварная літаратура пішацца, каб чытацца, як хлеб пячэцца, каб еўся.

**Л.Рублеўская.** Але ж і "нармальныя" пісьменнікі, і маладыя, і старэйшыя пераймаюць сёння прыёмы бульварнай літаратуры, каб зрабіць свае творы больш чытэльнымі, прыцягнуць да іх увагу...

**І.Чарота.** Гэта наканаванне, відаць, "меншых" літаратур, не сцверджаных — працаваць на кан'юнктуру. Таму ж Дастаеўскаму ці Талстому мы можам прысвойваць такія намаганні, яны маглі прысутнічаць у

Проза

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# СУХІЯ НАВАЛЬНІЦЫ

АПАВЯДАННЕ



*Вёска мая, чараўніца,*
*Што сэрца ўкрала?*
ЦЁТКА

Калі ж гэта яшчэ было. Зямля толькі што ўзарана, ідзе цёплая пара, бы нарэшце адчынілі вечка. Поле на пагорку, як на стале. Ціха навокал, благачынна, так бывае ў хаце на першы дзень пасля Запустаў. Торгнешся ступіць крок, не адчуваючы гэтай хвіліны, і спынішся з незразумелай дзіцячай паслухмянасцю, бы нехта побач з табой, намнога старэйшы і мудрэйшы, падымае руку да лба, — хрысціцца. Не перайсці, — у вёсцы ў кожным кутку намоленае месца.

І раптам спёка. Яшчэ з вечара бачыла, як маладое сонца не ў пару сабе прымярала карону. Ззянне разыходзілася кароткімі шылаватымі зубцамі, — зіхаценне дарагіх халодных каменняў. Рэдкі птушыны голас, кожны гук у паветры шчапаўся на трэску. "Сухаветрыца, як на сенакосе", — спарней за ўсіх скажа Броня на вёсцы. Ідзе па вуліцы, як заўсёды, подбегам. "Я шчаслівая, да старасці дажылася, а ніколі ні рукі, ні нагі не зламала. Птушка, тая на скрылях, і то, бывае, ударыцца ў шыбіну, не скіраваўшыся"... — казала неяк. Прырода пільнавала ейныя таропкія крокі, бы пусціўшы сярод нас на завод. У дзяцінстве, праўда, два пальцы ў сячкарні адрэзала. Па гэтым фальшы не мела, калі і ў дзеўках хадзіла. Век рукі ў руху, у рабоце, аж у вачах мігціць, бы ў паветры, як птушка. Калі і згубіцца пёрка, не заўважыш. Ідзе, ветрае парваным падалом, няма часу зашыць, гуляюць скразнякі каля ног — халадок... Стаіць, пераймае яе Тамара, сяброўка з дзяцінства, прыехала стараваць у вёску, аддае ёй грошы за малако.

— Чаму гэтак робіш, у хату да мяне не зойдзеш? — злуецца Броня.

— Ты ж якраз дарогай ідзеш... за адным разам во...

— І ты дарогай да мяне прыйдзі, не полем...

Злуецца, а сама сабе ўжо не можа рады даць, улегшы ў работу. Не да сяброўства. "Як калі дзе пасяджу ці пастаю з кім на вуліцы, пагавару, дык мне гэтай мінуты шкода. Шкадую, бы што згубіла..." — шчыра прызнаецца. Людзі бачаць, абходзяць яе. І дзеці быццам адракаюцца. Якраз жа каля маіх вокан ішоў ейны зяць з сынамі, былі прыехаўшы з горада на выхадны дзень. Апошнім часам ён нечпадзявана разбагацеў, займаючыся нейкім бізнесам.

— Бацька, паедзем адсюль, паставім у лесе палатку, вогнішча раскладзём, га? Хоць адпачнём, — ціха па-змоўніцку настойваў старэйшы.

— Мае раптам падхапіліся, нешта ўспомніўшы, і паехалі, нейкая ў іх пільнасць... запрасілі сала, цыбулі, хлеба... што да чаго... — тлумачыла Броня потым мужу мімаходзь.

Не, не здагадваецца. А мне шчыміць іхняя таямніца, бы ў маёй хаце нейкая няўдача. Ці то хлеб у печы ад моцнай гарачыні разламаўся на дзве паловы, на два акрайцы, пашчапаўся і абодва сырцом, комам. Ці то... і здумаць няможна што яшчэ благое. Ужо стаіць Броня сярод двара прыбраўшыся, усклала на сябе, як толькі зяць прыехаў, сівы сарафан. І рубцы відаць на ім, як быў зложаны ў шафе, не адвісеўся яшчэ на ёй. Папправіла новую хустку, абвяла рукой па самым брыжыку, акрэсліўшы рэдкую на вёсцы прыгажосць: вытанчаныя рысы твару, бы за мроівам стагоддзяў. Так старэюць святыя жанчыны на вясковых абразах. Мікалай у новай блакітнай кашулі. Быццам і ў іх ужо другое жыццё за багатым зяцем. Сарафан шарсцяны, горача, твар гарачы, позірк аж кіпіць, але ж дзеля дачкі, тая стала сварыцца, што бацькі ходзяць у карэлым, як заключонікі. Толькі бліс на мужа вачыма, маўляў, наробіць ёй мыцця, вось і ўсё! Трэба ісці пераапранацца, раз ад'ехалі.

І дагэтуль па-ейнаму зяцёк не вельмі ляпіўся за работу, ведама, гарадскі чалавек. "Во, нясе салому! Глядзі! Мала ўзяў, мне не хопіць! У цялушкі капыт задраўся, кроў цячэ. Падлога ў хлеве гнілая, можа, цвік загнала, трэба ёй падаслаць. Глянь, колькі ўзяў! Гультай! Ці ў яго сілы няма? Паробіць паўгадзіны якой і кладзецца спаць! А трэба ж рабіць!" Выгаворвала яму здалёк, у вочы не адважвалася. Нечага было дзівіць, ён працаваў недзе ў будаўніцтве, хапала, пэўна, клопатаў. Гэта не конь, што ўсё ў грыву, і ў грыву, чалавеку трэба і аддыхнуць. Але ж трэба, прыехаўшы, і адрабляць цешчы за харч, адбываць павіннасць, як умее, без ейнай дапамогі дзяцей цяжка гадаваць. Не хапала звычкі працаваць без аддухі ўсю нядзелю запар. У цешчы зусім другі дзень, другі год. Іншы раз збяруцца з хаты раней, чым меркаваліся быць, і паехалі дамоў, не дабыўшы да вечара.

— Няхай сабе едуць... Бачу, як ён усё укладаецца і ўкладаецца... Дашчэнту, бачыш, спрацаваўся, у канторы седзячы... — махне ўслед рукой, маўляў, такая з іх дапамога. Яны і раней іншы раз ёй болей заміналі.

Затое цяпер, спадзяваліся маладыя, пажывуць па-людску, справы ў бізнесе ішлі вельмі паспяхова. І дачка стала прасіцца:

— Мама, я ўсё магу купіць і сабе і табе. Паспагадай, мне хочацца, прыехаўшы, каля рэчкі пасядзець, а я свету не бачу за работай... З табой некалі пагаварыць...

Ведала Броня ейную гаворку: мама, трэба меней трымаць скаціны, толькі калі трохі дзеля сябе, ім ужо дапамога непатрэбна.

— А што я загадаю рабіць, калі не буду занятая? Вазьму аднаго гусачка на рукі да грудзей і буду лашчыць?! Што я з гэтага буду мець? Трэба дзеля спажывы трымаць, а не дзеля строю ці ўцехі! — бараніла сваю вялікую гаспадарку. Нарэшце, волю далі, скаціны трымай колькі здужаеш, зямлі выкупленай поўна, аж да ракі.

Дачка, шкадуючы матку, з граблямі ішла на сена. Зяць, насупіўшыся, з дзецьмі ў грыбы, маўляў, ён ужо зарабіў на ўсіх, можа і адпачыць. Ішлі ў розныя бакі, бы з розных хат, з розных сем'яў. Дачка не кажа ў банку, дзе працуе, што яна з вёскі, што кожную суботу едзе туды сеяць ці сенаваць. Каб не ганьбавалі ёю "новыя" беларусы. У нядзелю ўжо вёска не святкавала. Амаль да ўсіх дзеці прыязджалі з горада толькі на выхадныя. Як упусціць такую дапамогу? Не было калі чалавеку спыніцца, не труднаваць дзеля зямнога, а падумаць аб сваёй душы. Адмяняліся і гадавыя святы. Прыехалі былі дачка з зяцем на Тройцу — і зноў няўпраўка. "Якубіха сказала, што можна работу рабіць", — з палёгкай абвясціла Броня. Маўляў, старая суседка ў царкву ходзіць, яна бліжэй да Бога, лепей ведае. Сама ж бывае ў храме толькі калі які выпадак: вяселле ці хаўтуры. Убачыла ў лесе неяк, па нешта ж хадзіла, цвіце жменька ветраніцы дуброўнай, курганком, і дрэўца побач, якраз як у галавах магілкі дзіцячай. Войкнула, спужаўшыся — гэта ж скора Радаўніца! А яна і запамятавала, трэба да бацькоў схадзіць на кладоўе. Адмяніла старая Якубіха Тройцу надоўга, а, можа, і назаўсёды. Адлучыла і сваё пакаленне ад Бога, якраз жа і да яе прыехалі дзеці. Не заламаўся ў лесе бярозавы май, голыя бэлькі ў хаце, голая брамка. Свята ўжо не заходзілася ў вёску. Стаялі пасвячоныя за даўнім часам старыя хаты, бы закінутыя пастуховыя буданы на стойбішчы. І зямля не аддыхнула.

Два вяслы ў вясковага чалавека, работа і малітва, — казаў нехта. Толькі, пэўна, цяпер дні карацейшыя, калі пасталелі. "Ці я перабораю, ці яно мяне, — скажа з адчаем Якубісе пры сустрэчы. — "Пра што ты?" — перапытае тая" — "Ну ці захварэю і памру ад такой работы, ці вазьму ў рукі і яно пойдзе ў мяне ладам..." — "Як зіма мінулася, дык і не памятаю. Каб не карова, не свіння, я памерла б, а так... Ветрык мяне абвее на агародзе — і мне лягчэй. Так бы я зляжалася, як гнілая салома ў полі... — спяшаецца ўлучыць у шчырую размову Якубіха. Вядома, не толькі дзеля дзяцей у горадзе распачата вялікая гаспадарка, але і дзеля саміх сябе, адчуваючы спрадвечную магнасць да зямлі. Запозна ўволю яна ім дасталася. Якубіха ўжо і мужа пахавала, дзеці ў горадзе.

Было галасу па вёсцы, калі зяць купіў адну імпартную машыну, потым другую. Ужо меў вялікую ўласную кватэру, будаваў маёнтак і дзецям. Броня быццам і не чула, што дачка разбагацела. Няўцямна замоўчвала аб іхніх даходах, як не гавораць услых аб нечым недазволеным. Адкуль яно, багацце? Нечыё ж было. Не трудом, а хітрыкай, лічыла, дасталося. А калі не ўдасца схітраваць другі раз?! Зноў гаворку заводзяць, каб цялушку збывала, не пускала ў зіму другую карову. Адпіхвалі яе ад гаспадаркі, шкадавалі ейную старасць. Яна, як сляпы за поручні, хапалася за граблі, за вілы, за лапату. Не забыцца ўжо ёй на тое, як прыехала была аднойчы дачка — багацейка: "Мама, у мяне ні капейкі... падкінь што-небудзь..." Сала і раней ніколі не бралі, калі жылі як прыйдзецца, а цяпер узяла. Трэба ехаць купляць у Ракаў, у яе самой адзін радок у кубле, да новага года не хопіць. Стары Мікалайка, калі ўжо і машыну завялі, нёс наўздагон у руцэ, зняўшы з гнязда, і пакладзь. Надточваў канцы, бы з гэтага дачка толькі і жыла. Дзіва што малая ўнучка, ледзь навучыўшыся гаварыць, казала: "І я буду бізнесменам". А што гэта такое, запыталіся. "Гэта рулетка такая, круці — і грошы будуць", — адказала. Маўляў, як удасца. "Во каб усе так жылі..." — хітала галавой Броня, пабыўшы неяк у дачкі ў гасцях. Цяпер ужо не падзяляла шчыра іхняе багацце на ўсіх, як раней.

"Каб яны ўсягды так жылі..." — бедавала, маўляў, нічога пэўнага, нічога і завіднага, часовае яно. Не, Броня лічыла, ейная гаспадарка больш надзейная за іхнюю.

І гэта пад такім спякотным небам гэтай сёлетняй вясной.

Суха, зямля звініць, не ўмінаецца пад нагамі. Няма следу, бы па каменні ходзіш. Усё пахавалася, як у непагадзь. Не развіхнуць кветку, пражылася насенне, няспелае зерне. Ішлі аблокі, міналі сад, агарод, хату, недзе, пэўна, бокам ішоў дождж. Хмары, спяшаючыся, куляліся праз галаву, то бліснe белым падбрушшам, то спінай з чорнай поўсцю. Ішла пад імі Броня з пустымі вёдрамі, паліла ўжо агарод, не спадзявалася на Бога. Марыў сон. Ледзь адзываўся далёкі гром. А выдавалася, што гэта яна шпульку нітак з пеляны ўпусціла, задрамаўшы, кацяня качае яе па падлозе, маскоча. Не памятаецца, калі гэта брала іголку ў рукі, вышывала ці ткала, хоць і ўмела. Мацерыны посцілкі, ручнікі каля абразоў. У яе і вазоны перасталі цвісці. Што якое? Думалася аб тым, што дзеці настойваюць, каб на дзень нараджэння мужа сабраць гасцей, юбіляр, семдзесят гадоў ужо. Дзецям лёгка прыехаць, ім коні не заварочваць. А гэта ж столькі руху! Не выходзіць баляваць, якраз у той дзень пісклюкі павінны вылупіцца, трэба пільнаваць. Няма ахвоты да таго балю. Сёння сядзела пад каровай, даіла і плакала, так змарылася. Яна ўжо і есці не варыць, некалі за работай. Мікалайка злуецца. Не бяда, неяк жа з зімы выйшаў, смяецца сама сабе. Румянец вунь на твары густы, цёмны, як закалец, валасы з-пад шапкі тырчком, выпетраныя ветрам, бы трава — сенажатка на самым пагорку. Чаму ж не, сесці б, пасядзець, злажыўшы рукі, як у гасцях, — усяго ў іх поўна, хлеў трашчыць ад скаціны, грошы ёсць. Даўно не збіраліся за доўгім сталом, за ім яна і замуж ішла. Каб жа ёй, як штатнай, падмену хто даў. А то: мама, аддыхні, а назаўтра ў яе ў два разы болей работы будзе. У хаце, як у хляве, ледзьве дошкі віднеюцца. Іншы раз дабярэцца дачка, выпратае збольшага і дзверы зачыніць — хай хоць крыху пабудзе чыста: "Мама, нашто мы печ белім, ці хіба надоі ў нашых кароў павялічацца". Маўляў, табе ўжо парадак гэты непатрэбен стаў. Вечка ў студні храснула, адвалілася. Адстаўлены ўбок адарваныя ў веснічках дзверы. Ледачкамі на сонцы вылузгваюцца шкельцы з аконных рам... "Броня! Але ж дзверы ў жылой хаце могуць быць адарваны толькі часова!", — хочацца закрычаць на яе, не ўтрымаўшыся, як узбудзіць ад нейкага цяжкага сну. Завядзеш гаворку здалёк. Маўляў, Якубіха не гаспадыня, гэтак гразка ў хаце, у гумовых ботах не перайсці, жыве, як начлежніца. "А ці ведаеш, колькі яна за год свіней выгадуе!" — запярэчыць, ухваляючы суседку... Успаміналася, гледзячы на іх, некалі чутая прытча... Мужыку амерыканец даў работу з той умовай, каб ён не стрыгся, не мыўся і рукавом нават не адважыўся абцерціся. Толькі адна работа. За ім будуць сачыць і ўдзень, і ўночы. Калі ён парушыць дагавор, усё ад яго адымуць... Праз кароткі час мужык разбагацеў.. Даўно было парушана і маё кволае ўяўленне аб сялянскай працы. Яшчэ летась з восені неяк навазілі яны сушыць з далёкага сенакосу сена. Ужо яно і высахла. Назаўтра дождж. Толькі ледзь віднелася. Броня з Мікалайкам посцілкай за плячыма носяць сена ў хлеў. Твар у яе напяты, цяжкі, пот цырубалкамі — праз сілу набірае на плечы. Не гавораць адзін за аднаго, моўчкі крадуць у сябе самы сон. Яшчэ і дзень не пачынаўся, а яна ўжо так напрацавалася. Золак мне тады падаўся невясёлым, цьмяным, бы святло ў галовах цяжкахворага чалавека. І сумнелася: ці на добрае ўжо гэткая праца, ці благачынная яна, калі на згуб душы?..

Пэўна, на Пятра нейкі бязбожнік гарадзіўся, кол глыбока загнаў — аніяк дождж не распачынаецца. Зірнеш ноччу ў акно, як у кузню: цёмна, толькі сполахі гарачай бліскавіцы, у два молаты яе куюць. Разпораз асвеціцца збялелыя вокны суседскай хаты. А сэрца і не зварухнецца. Звыклася ўжо сухая навальніца. Гэтым днём таксама зусім не варажылася на дождж. Ластаўкі будаваліся пад страхой. Адна за адной узмахвалі чорным рукавом, бы манашка з напарсткам перад акном седзячы. Пярун ляскаў над самай галавой. Раптоўна падхапіўся віхор, мёў нізка, збіраў след чалавечы, след скаціны, падымаў угору. Дарога ўжо тая ішла над хатамі, вілася шэрым шляхам да лесу.

— Едзьце, збірайцеся, неба замурзалася" — заспяшалася Броня, зносячы напакаваныя сумкі ў багажнік, дачка з зяцем была зноў прыехаўшы.

"Няхай сабе едуць..." — гаварыла сама да сябе потым. Едзьце, не замінайце, нечага час бавіць, ейную ахвоту да работы не зводзьце, не квяліце ейную больку. "Няхай сабе едуць..." — паўтарала. Кацілася, накочвалася даўняя крыўда, яна адганяла яе ўслых, супакойвалася. Як не пры сваёй памяці, няўцямна спадзявалася на іхнюю дапамогу, бы і дачка і ўнукі яшчэ побач, у хаце. Яшчэ яна лашчыць іх па галаве, падымае руку вышэй і вышэй — ужо і не дастаць. Прыехаў быў неяк большы ўнук: "Вось тут, у садзе, будзе стаяць тэніс!" І паехаў. Памятае, як толькі першы раз яго былі прывёзшы ў вёску, узяла на рукі, вынесла з хаты. Нідзе не спынялася, як не затуляючы яму вочы, мінала панадворак, сад, няўцямна ішла да ракі, дзе пасвіўся конь. Каб першае, што ўбачыў, зацьменнем засланіла гарадскі свет. Яму было раней ягад з куста агрэсту, як вады напіцца, — толькі з аўтобуса, адразу ў агарод. Цяпер банан аблупіць — і ўвесь пачастунак. Перарвана ўжо даўно сялянскае пупаўё. Рыкала калгасная карова за ракой. Два дні і дзве ночы не зыходзіць з месца, дзе была прыВёўшы цяля. Яго адразу забралі, а яна аніяк не зразумее, дзе яно магло ад яе дзецца, жывое, цёплае. Толькі во паспела пысу яму аблізаць. Набракала вымя, цякло па нагах малодзіва. Каровы збіраліся вакол яе, рылі капытамі, чуючы пах крыві, пах пасцелькі з улоння, трубілі, склаўшы галовы. Дзікі ваяўнічы рык ахопліваў вёску. Труднуючы грудзьмі, Броня бегла да яе, каб хаця на зямлю крыху здаіць, малако перагарыць. Пайшлі б дажджы, змылі б тое месца... "Няхай сабе едуць"... І на гэты раз не ўзяла ад дачкі грошы — скаціне на муку, курам на крупы. Ніколі не брала. А калі яна сама занядужыць, і ёй прыйдзецца за дзецьмі старавацца? Запасіла, складаючы ім у суляккі масла, сыры, гародніну, на сваю доўгую зіму. Гэтаксама як збірае ўсё лета, гатуе надалей варэнне, ніколі не ўзяўшы ў рот сырой ягадзіны. Няхай будзе чысты ўклад, нечапаны, як у банку. Няма ў яе надзеі на гэты свет: невядома, ці надоўга гэты дазвол трымаць скаціны, колькі хочаш, урабляць сваю зямлю. Трэба спяшацца.

Дождж пайшоў буйны, нізкі, бы з куста ў лесе стрэсены на плечы. Гусі Броніны пасталі на вуліцы, высока падняўшы галовы насустрач струменям, толькі што лапкамі не вяслуюць супраць цячэння. Гэтай ноччу Броня не паспела ўжо і ў хлеў іх зачыніць. А хваліцца, што лёгка іх глядзець, маўляў, пусціў на траву і ўсё. Гусі навобмацак пераходзілі з месца на месца, качаліся да раніцы па вуліцы белымі клубкамі — дзікай чарадой, што, высіліўшыся, асела на зямлю пераначаваць. Неяк рана заспявалі салаўі, далучыўшыся да дзённых птушак. Выходзіш на вуліцу, як на свята. Малыя жабы з-пад ног празрыстымі зеленкаватымі пацеркамі з тваёй шыі. І Броня якраз ідзе насустрач. Карова захварэла, пэўна, прыпасвала яе каля лесу. Вяроўку ўскінула ёй на спіну, маўляў, ідзі сама дамой, дай хоць рукам аддуху. Круп шырокі, на ім вяроўка як на лаве. Броню пазнаеш здалёк, постаць прыкметная ад усіх баб. Людзі толькі ў поле — яна ўжо там, усе дамоў, а ёй хоць бы што. Галаву заўсёды трымае высока, погляд з прыкідам на дзень, на год, на ўвесь наш цьмяны век. Я не ейная сяброўка Тамара, што ўжо і ў хату не заходзіць, баючыся трапіць у гарачую, як вар, пільніцу. Варта ўбачыць яе на вуліцы ці на другім полі, абы трапілася на вочы, — іду, бягу да яе, замінаю, пад ногі, пад рукі, перадкуюся спатыкачом. Не ўсё разумеючы ў ейным жыцці, нешта асуджаючы, дзівячыся і брыдзячыся іншы раз, стараюся лучыць у ейны спорны крок, прайсці побач, стаўшы на ейную нескончоную спрадвечную сцежку. Ляту на голас. Каб скрозь тусоўкі, войны, бязбожжа, безуладдзе пачуць адзіны пэўны покліч, як да непаслухмяных дзяцей, што чула яшчэ ў дзяцінстве: "Да работы!" Ратуюся, заблытаўшыся ў чалавечым тлуме, уталяю асабістую бяду, як у мацярынскім зацішку...

Толькі шум дажджу з пераходамі, бы на старым млыне часу.

## БРАВА, АНДРЭЙ!



**Студэнт 2-га курса Беларускай акадэміі музыкі (клас прафесара Людмілы Шаламенцавай) Андрэй Паначэўны вярнуўся дадому з Кёльна. Вярнуўся — пераможцам. У міжнародным конкурсе піяністаў, дзе ён прадстаўляў Беларусь, удзельнічала 150 музыкантаў. Пасля чатырох найскладаных конкурсных тураў Андрэй Паначэўны выйшаў у лідэры і атрымаў першую прэмію! Цікава, што другую прэмію журы вырашыла ўвогуле не прысуджаць. Нагадаем, што таленавіты беларускі піяніст звярнуў на сябе ўвагу сур'ёзнай музычнай публікі яшчэ летась, калі з вялікім поспехам выступіў на Міжнародным конкурсе імя Ф. Шапэна ў Варшаве і быў ганараваны дыпломам. Цяпер нашага маладога артыста рэгулярна запрашаюць з канцэртамі ў Польшчу, жадаюць бачыць на адкрыцці філарманічнага сезона ў Варшаве, просяць уключыць у склад удзельнікаў Дзён культуры Беларусі, якія маюць адбыцца ў суседняй краіне.**

**Н. К.**

## ЧАКАЕМ ТОЛЬКІ КАХАННЯ



**Беларускія інтэрпрэтацыі аповесцяў "...пра Баву", "...пра Атылу", "...пра Трышчана ды Іжоту", а таксама шматлікія іх варыянты, — з тых, што не трапілі ў "Пазнанскі рукапіс" 1580 года праз сербскія крыніцы, але з тых, якія ашчадна падаюць "Памятники всемирной литературы", — зрабіліся падставаю для п'есы Сяргея Кавалёва "Люстэрка Бландоі". Ужо на падставе п'есы тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі "Вольная сцэна" прапанаваў спектакль "Заложніца кахання" ў рэжысуры ды пастаноўцы Андрэя Гузія (мастак Віктар Цімафееў, музыка гурта "Камэлот", прэм'ера 11 кастрычніка). У ролі самой заложніцы кахання, легендарнай Бландоі, — Алена Гудкова і Любоў Манкевіч. Нягледзячы на агульнасць тэксту і мізансцэн, выканаўцы розняцца між сабою заўважна.**

**Казачныя імёны Дадона, Гвідона, Бавы можна цяпер пачуць з падмосткаў у самым сур'ёзным атачэнні. Зрэшты, падказаць гледачу шлях, якім яны трапілі ў нашы і рускія казкі, а потым, дарэчы, і ў казкі Пушкіна, — вартая задача для асветніцтва, якім не грэбуе "Вольная сцэна". Рыцары з казачнымі імёнамі сыходзяцца ў двубоях, над кожнаю драбніцаю якіх шчыравалі — ужо як пастаноўшчыкі, — акцёры Ігар Сігоў ды Уладзімір Іваноў. Самыя маладыя гледачы, крадком узважваючы сцэнічную зброю пасля спектакля, захоплена вохкаюць і, напэўна, заўжды мусяць паважаць акцёрскую працу. Высокія жарсці, што пануюць на "Вольнай сцэне" на працягу двух актаў, дакладнасць акцёрскага выканання і адметная фабула бездакорна трымаюць глядацкую ўвагу, але каханне, — тое, чыя заложніца порстка закручвае інтрыгу спектакля, яшчэ мусіць прыйсці на "Вольную сцэну" самым важкім удзельнікам. Каханне, чыю моц ды ўладу гэтая заложніца пакуль толькі абвяшчае (гаворка ідзе пра першы склад выканаўцаў).**

**Такога кахання варта і пачакаць.**

**Ж. Л.**

*На здымку: Алена Гудкова (Бландоя) і Андрэй Кавальчук (Гвідон).*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

Тэатр

# Вітаўтас ГРЫГАЛЮНАС: "АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ТЭАТР ТРЭБА СТВАРАЦЬ НАНОВА"

***Пра тое, як вядомы і шмат кім з гледачоў упадабаны "Альтэрнатыўны тэатр" развітаўся са сваімі ўтрымоўцамі, а потым і з пляцоўкай, нашым чытачам ужо вядома. Адносна нядаўна выніклі непаразуменні ўжо ў самой трупе, па прычыне якіх — пра гэта сведчаць заявы кіраўнікоў ды акцёраў — утварыліся... два тэатры? Або, — іншы тэатр, які пераняў папярэдні? Лепш за ўсіх пракаменціраваць сітуацыю для "ЛіМа" можа, бадай, сам Вітаўтас ГРЫГАЛЮНАС, мастацкі кіраўнік і адзін са стваральнікаў "Альтэрнатыўнага":***



**— Вітаўтас, паплечнікі ды калегі не так даўно папракалі цябе ў спрыянні арганізацыйнаму, а потым і мастацкаму крызісу ў тэатры...**

— Калі ўзімку нас пакінулі спонсары, — з вялікімі пазыкамі і без капейкі грошай, я, не спецыяліст, чатыры месяцы "цягнуў" тэатр. Як прыватны прадпрымальнік на сваім прыватнапрадпрымальніцкім рахунку. Пра якое развіццё, якія пастаноўкі магла ісці гаворка? Мне ўдалося разлічыцца з бальшынёй пазыкаў і нават плаціць зарплату, удалося вярнуць гледачоў у тэатр... Калі б не апошняе, вельмі дзіўнае для мяне рашэнне "Пріорбанка"... выставіць нас канчаткова з памяшкання, якое яму, банку, належыць. Бо чатыры месяцы — зіму і вясну — нам гарантавалі, мовім так, існаванне. Маўляў, караскайцеся з запазычанасцяў ды канфліктаў, замінаць не будзем. Мо не чакалі, што тэатр выкараскаецца? А вось пакінуць будынак пры канцы красавіка мы не былі гатовыя. З мая забракавала грошай на зарплату акцёрам ды персаналу. А ў чэрвені я мусіў спраўджваць уласнае абяцанне — ставіць спектакль у Брэсце. Пра гэта тэатр ведаў цэлы год, пастаноўка была запланаваная. Рызыкуючы рэпутацыяй, замест чатырох тыдняў я выпусціў спектакль у Брэсцкім лялечным тэатры за два тыдні. Вярнуўся ў Мінск... каб пачуць, што ўсіх кінуў у скрутны момант, усім здрадзіў, — хоць, здаецца, за два тыдні што яшчэ магло здарыцца? Я ж пакідаў тэатр на паплечнікаў. Абазнаных, дасведчаных, са згоды трупы... На сходзе, які наступнічаў нашаму арганізацыйнаму крызісу, паднялася адна з актрыс: раз ты, мастацкі кіраўнік, мовіла яна, не можаш плаціць зарплату, дык я заплачу. Заплаціла... Так пачаліся і працягнуліся непаразуменні з трупаю. Але спектаклі нашы, перанесеныя з асноўнай, пріорбанкаўскай пляцоўкі ў Палац культуры Белсаўпрофа, не апраўдалі фінансавых чаканняў. Лета было, міжсезонне. Я прапанаваў быў іграць толькі два спектаклі: "Камедыю..." ды "Тэатр Антошы Чэхантэ". Самыя мабільныя, самыя непатрабавальныя да пляцовак. А ўсіх, хто не заняты ў іх, адпусціць у адпачынак, хоць і вымушаны, і без грошай. Адказ акцёраў быў адназначны: ты хочаш нас пазбыцца! Нас раскідаць! Знішчыць тэатр! Трупа мае права на шмат што. І яна сваё права ажыццявіла: я мусіў пайсці. Да сёння мне не надта зразумелыя дзеянні маіх акцёраў...

**— Ну а "Малы тэатр", якім кіруе вядомы акцёр "Альтэрнатыўнага" Ігар Забара — гэта "былы Альтэрнатыўны", як напісана ў афішы пры Палацы культуры Белсаўпрофа? Наступнік? Пераемнік?**

— Юрыдычна і незалежна адзін ад аднаго існуе і "Альтэрнатыўны" і "Малы тэатр". "Малы" не можа з'яўляцца пераемнікам "Альтэрнатыўнага" нават калі вельмі захоча: маг-

Музыка

# З ЧЫМ ПРЫХОДЗІМ У XXI СТАГОДДЗЕ?

## РАЗВАГІ ПРА СТАН БЕЛАРУСКАГА МУЗЫЧНА-ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА

Сёлета адбыўся першы нацыянальны фестываль "Музыка і тэатр". Менавіта адбыўся, а не прайшоў, бо ўпершыню наш слухач і глядач змог ахапіць шырокую панараму музычна-тэатральнай творчасці беларускіх музыкантаў: оперу, балет, музычную камедыю, мюзікл, музычнае афармленне драматычных спектакляў. Больш за два дзесяткі сцэнічных твораў прадэманстравалі прафесійнае майстэрства як кампазітараў, так і выканаўцаў — удзельнікаў пастановак Акадэмічнага тэатра оперы і балета, Тэатра музычнай камедыі, Рускага тэатра, Купалаўскага. Быў таксама паказ спектакляў па тэлебачанні, дзякуючы чаму мелася магчымасць прасачыць эвалюцыю беларускага музычна-тэатральнага мастацтва, скласці прагнозы на будучыню.

Што паказаў фестываль? Перш за ўсё тое, што нацыянальнае музычна-тэатральнае мастацтва жыве. Але як? Ёсць у архіўных відэа- і гуказапісах, ёсць у прыватных калекцыях, але толькі зрэдчас — у рэпертуары нашых тэатраў. Разам з тым вядома, што бягучы рэпертуар — гэта той "магічны крышталь", які высвечвае ўсе бакі культурнага жыцця рэспублікі.

Што ён высвечвае?

### РЭПЕРТУАР

Так ужо склалася, што акадэмічныя тэатры маюць у сваім распараджэнні пастаянны, гэтак званы "залаты фонд" музычна-тэатральнай класікі, які нязменна абнаўляецца. Разам з тым, калі звярнуцца да сусветнай музычна-тэатральнай літаратуры, адразу робіцца відавочным, наколькі вузкі рэпертуар нашых тэатраў, наколькі мы далёкія ад больш ці менш поўнага малюнка невычэрпнага багацця музычна-тэатральных стыляў, жанраў. Наш беларускі глядач і слухач пазбаўлены магчымасці пазнаёміцца з такімі шэдэўрамі, як "Прыгоды гарэзы", "Вяселлейка", "Байка пра Лісу, Пеўня, Ката ды Барана", "Пульчынела", "Жар-птушка", "Гульня ў карты", "Маўра", "Персефона", "Агон" І.Стравінскага, "Нос", "Залаты век", "Болт", "Светлы ручай" Д. Шастаковіча, "Казка пра блазна", "Стальны скок" С. Пракоф'ева, а таксама з творамі Равеля, Дэбюсі, Бартака, Брытэна, Рыхарда Штрауса, Хіндэміта, Берга, Гершвіна, Бернстайна, Пендарэцкага, Сланімскага, Шчадрына і, вядома ж, з многімі творамі беларускіх кампазітараў.

Як тут не прыгадаць цудоўны прыклад Камернага музычнага тэатра Масквы, адна з прычын прываблівасці якога — у прапагандзе многіх і розных музычна-тэатральных твораў. У тым, што там не баяцца ставіць нават самыя спрэчныя опусы.

У нас жа сітуацыя іншая. Кінеш позірк на тэатральныя афішы, і можа скласціся ілжывае ўражанне, што ў нас няма нацыянальнай музычна-тэатральнай традыцыі, што беларускаму слухачу непатрэбны новыя імёны і новыя назвы, што публіка жадае бачыць у музычным тэатры нейкі ўстойлівы стэрэатып, звернуты да пэўных устойлівых эстэтычных пачуццяў. Факты, аднак, сведчаць пра іншае. Скажам, паказ оперы Вардоцкага—Смольскага "Апалон-заканадаўца", прэм'еры арыгінальна амузычаных спектакляў "Тутэйшыя", "Ідылія", балетаў "Страсці", "Кругабег" выклікалі вялікую цікавасць. А як не хапае нашым сябрам оперы колішняга эксперыментальнага тэатра рэжысёра С.Штэйна! Пагаварыце з беларускімі кампазітарамі — і высветліцца, што ў многіх з іх ёсць і новыя оперы, і новыя балеты, і эскізы будучых тэатральных твораў. Аднак... дзе, на якой сцэне паставіць балет "12 крэслаў" і монаоперу "Запіскі вар'ята" В. Кузняцова, балет Я.Паплаўскага, камерную оперу А.Бандарэнкі? (Можна згадаць тут мадрыгальныя сцэны "Музычная панацэя" і "Мес Менд" А.Мдзівані. — **Рэд.**). Усяго не пералічыць, ды і аўтары маюць права на захаванне творчай тайны...

Не сакрэт, што сучасную оперу і сучасны балет і спяваць, і танцаваць, і іграць складаней, бо сам музычны матэрыял вымагае падыходаў, мала звыклых для нашых выканаўцаў і рэжысёраў. Аднак нашы бліжэйшыя суседзі паспяхова вырашаюць ускладнёныя творчыя праблемы. На сцэнах Масквы і Пецярбурга, Вільні і Рыгі ідуць класіка і авангард, нацыянальныя і, так бы мовіць, "інтэрнацыянальныя" спектаклі. Ды й тэатраў болей. У Маскве, напрыклад, функцыянуюць "Крамлёўскі балет", "Маскоўскі тэатр балета", "Рускі балет-мадэрн", Вялікі тэатр оперы і балета, Камерны музычны тэатр, Музычны тэатр імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, "Гелікон", "Новая муніцыпальная опера", "Музычны тэатр юнага акцёра", "Акадэмічны дзіцячы музычны тэатр", якія ўвасабляюць на сваіх сцэнах як айчынны, так і замежны рэпертуар не толькі новага часу, але і абнаўляюць класіку ў адпаведнасці з сучаснымі эстэтычнымі ўяўленнямі. Адсюль — рэпертуарная насычанасць і разнастайнасць, адсюль і слухацкая культура і калі хочаце — эстэтычны густ і духоўная культура нацыі. А што ж у нас?

У адрозненне ад Вялікага тэатра оперы і балета Расіі, які ставіць тры балеты ў адзін сезон, наш славуты Нацыянальны акадэмічны беларускі балет задавальняецца адной прэм'ерай на два сезоны. Мала! Вельмі мала! Балазе, два апошнія гады азнаменаваны пастаноўкамі на гэтай сцэне двух нацыянальных балетаў. Што ж рабіла балетная трупа ў 90-я гады? Шмат гастралявала за мяжой. Факт прыемны, таму што балетная трупа "актыўна ўдзельнічае ў справе прапаганды нацыянальнай культуры". З якімі ж спектаклямі выступае наш беларускі балет за мяжой? Вось тут-та... вялікая далікатная праблема. Ніводны балет беларускіх кампазітараў не быў пазначаны ў афішах замежных турнэ беларускай трупы. Як жа так атрымалася, што беларускі балетны жанр як жанр музычнага мастацтва апынуўся "за бортам" у танцораў? Вядома ж, ёсць наш нацыянальны балетны рэпертуар! Што ж перашкаджае славутай трупе яго танцаваць? Гэтак жа мы ніколі не сфармуем нацыянальны рэпертуар, які мог бы дастойна прадстаўляць культуру рэспублікі ў любым пункце зямнога шара.

На фестывалі балет быў прадстаўлены ўсяго двума "жывымі" спектаклямі, плюс адным па ТБ і адным — у відэазапісе. Опера паказала сябе ў 3-х пастаноўках і 4-х трансляцыях па радыё і ТБ. Кожны сезон у нас ставяцца дзве новыя оперы. У рэпертуары ёсць і творы нацыянальных кампазітараў. Але чамусьці знікла з афіш опера "Князь Наваградскі" А.Бандарэнкі, за якую кампазітара ганаравалі Дзяржаўнай прэміяй. Акрамя таго, мы і не дачакаліся прэм'ер "Францыска Скарыны" Д.Смольскага, "Матухны Кураж" С.Картэса. Падчас замежных турнэ таксама не гучаць оперы беларускіх кампазітараў...

А цяпер уявіце: да нас прыехалі "замежная" опера ці "замежны" балет без хоць бы аднаго твора свайго нацыянальнага кампазітара. Такога штосьці не прыпамінаю. Венгерская опера прывезла ў свой час у Маскву, у бытнасць СССР, сваю оперу — "Замак герцага Сіняя барада" Б.Бартака — венгерскага кампазітара, французскі балет Русіё-форэ — французскага кампазітара і г.д. І гэта нармальна! У нас жа нармальным лічыцца ігнараванне нацыянальнай музыкі...

**Яшчэ адзін стогадовы юбілей з абсягу нашай навейшай гісторыі. На гэты раз — Міхася Чарота, літаратара, палітыка, "культурніка" 20-х гадоў, які шмат зрабіў для Беларусі і стаў урэшце ахвярай сталінскага таталітарнага рэжыму, які ўсталяваўся ў той час у краіне. І пра гэта інакш не скажаш, як пра вялікую чалавечую і нацыянальную трагедыю. Паэт М. Хведаровіч, які таксама быў рэпрэсіраваны і трапіў у тую ж адзіночную камеру, дзе да гэтага сядзеў М. Чарот, прачытаў "выкалупаны нечым вострым на сцяне" верш — апошні чаротаўскі твор:**

*Я вам не здрадзіў,*
*Не змяніў,*
*Бо славіў наш савецкі будзень.*
*Свой верш сардэчнай чысціні*
*Ахвяраваў я родным людзям.*
*Я не чакаў*
*І не гадаў,*
*Бо жыў з адкрытаю душою,*
*Што стрэне лютая бяда,*
*Падружыць з допытам,*
*З турмою.*
*Прадажных здрайцаў ліхвяры*
*Мяне заціснулі за краты.*
*Я прысягаю вам, сябры,*
*Мае палі,*
*Мае бары, —*
*Кажу вам — я не вінаваты,*
*Паверце — я не вінаваты!*

**Верш называўся "Прысяга" і сведчыў, што аўтар не здрадзіў сваёй годнасці чалавека і паэта.**

# ЛЁС МІХАСЯ ЧАРОТА

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

Сёння мы, на жаль, не можам яшчэ сказаць, што дасканала, у падрабязнасцях, ведаем жыццёвы шлях і творчасць М. Чарота (як і эпоху, у якую ён жыў). Несумненна, аднак, што, як паэт, як асоба і грамадскі дзеяч, М. Чарот узняўся на хвалі тых кардынальных сацыяльных патрасенняў, войнаў і рэвалюцый, якія супалі з юнацкай парою яго жыцця і ў многім перайначылі аблічча свету. Першая сусветная вайна, Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі адзначылі надыход новых часоў і ў лёсе Беларусі.

"Слухайце Рэвалюцыю", — патрабаваў ад інтэлігенцыі ў 1918 годзе А. Блок, які свядома стаў на бок савецкай улады. Абавязак інтэлігенцыі, на яго думку, — "бачыць тое, што задумана... Што ж задумана? Перарабіць усё. Зрабіць так, каб усё стала новым; каб ілжывае, сумнае, неахайнае наша жыццё стала справядлівым, чыстым, вясёлым і прыгожым жыццём" (артыкул "Інтэлігенцыя і рэвалюцыя").

На гэта спадзяваўся не толькі А. Блок, які, дарэчы, хутка расчараваўся ў рэвалюцыі, але і Я. Купала, і Я. Колас, і іншыя, у тым ліку М. Чарот. Беларускія пісьменнікі з рэвалюцыйным вызваленнем звязвалі нацыянальнае адраджэнне. М. Чарот быў адным з утваральнікаў Камуністычнай арганізацыі ў Беларусі (БКА), лідэрам літаратурнага руху.

Пазней у сваёй аўтабіяграфіі ён напіша: "Лічу, што стала заняўся літаратурнай працай з часу запанавання на Беларусі Савецкай улады".

На пачатку 20-х гадоў прыток маладых у літаратуру быў незвычайны. У мастацтва, культуру пераліваліся творчыя сілы народа. К. Крапіва, У. Дубоўка, А. Александровіч, М. Грамыка, А. Дудар, Я. Пушча, потым, па меры ўступлення ў літаратуру, да іх далучаюцца П. Трус, П. Глебка, П. Броўка, М. Лужанін, М. Багун, Ю. Лявонны, В. Вітка, А. Вольны, С. Дарожны, З. Астапенка, Ю. Таўбін, А. Куляшоў, А. Звонак, У. Хадыка, М. Хведаровіч, Т. Кляшторны і іншыя — якая плеяда маладых талентаў, часта з сур'ёзнай жыццёвай школай, з вялікім жаданнем змагацца за рэвалюцыйныя і нацыянальныя ідэалы. М. Чарот, паводле трапнага выразу У. Калесніка, з'яўляўся "духоўным бацькам "Маладняка" (утвораны ў 1923 годзе) — літаратурнай арганізацыі, якая адыграла выдатную ролю на першай стадыі фарміравання беларускай савецкай літаратуры.

Першая кніга вершаў "Завіруха" — выйшла ў 1922 годзе. Тады ж убачылі свет зборнікі З. Бядулі "Пад родным небам", Ц. Гартнага "Песні працы і змагання", Я. Коласа "Водгулле", Я. Купалы "Спадчына"... Чаротаўская кніга ў агульных абрысах праўдзіва адлюстравала духоўны свет чалавека, які стаў на бок рэвалюцыі і свядома ўключыўся ў будаўніцтва новага жыцця. Яна застаецца выдатным мастацкім дакументам і сведчаннем той пары.

Бура, навальніца, пажар, завіруха, звон, меч і агонь, што крышаць стары свет, — гэтая вобразнасць і сімволіка выяўлялі рэвалюцыйны змест кнігі "Завіруха" і ўсёй паэзіі М. Чарота. "У творах сваіх ніколі не сумую", гаварыў ён пра сябе, і гэта было відаць ужо ў першай кнізе.

**Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар,**
**Я балота буджу гучным шумам, —**

пісаў ён у вершы "Бунтар" (1922), насычаным вельмі празрыстай сімволікай.

Тэма рэвалюцыі і будучыні знаходзіцца ў цэнтры паэмы "Босыя на вогнішчы", якая была напісана ў 1921 годзе, а асобнай кнігай выйшла ў 1922-м, адначасова з "Завірухай". Гэта — расказ аб народзе і рэвалюцыі. Кастрычнік асэнсоўваецца ў паэме як магутны выбух энергіі сацыяльных нізоў, разняволеных сіл беларускага народа, як стыхія народнага гневу. Чарот развіваў у ёй, як і ў лірыцы, купалаўскія традыцыі стварэння маштабнага вобраза. Усе мы памятаем верш Я. Купалы "А хто там ідзе?", у якім ён з вялікай сілай мастацкай пераканальнасці сцвердзіў веру ў народ, у дзейсную сілу грамады.

**А хто там ідзе,**
**А хто там ідзе**
**У агромністай такой грамадзе?**
**Беларусы.**

Гэты вобраз народа, грамады знайшоў развіццё ў паэме М. Чарота:

**Яны — байцы вялікай раці,**
**Іх хата там, дзе ёсць прастор.**
**Няволя, крыўда — вось іх маці!**
**Ідуць яны да сонца й зор.**

Паэме ўласціва так званая "карнавалізацыя" масы. Вобразы — сімвалы, шырокія абагульненні, што плывуць магутнай ракой разняволеных рытмаў, суседнічаюць з каларытнымі, выхапленымі з жыцця дэталямі і сітуацыямі, якія жыва перадаюць незабыўны каларыт той эпохі.

Як і рускі паэт А. Блок, Чарот пачуў "музыку рэвалюцыі". "Босыя на вогнішчы" былі спробай беларускага паэта перадаць шматстайнасць уражанняў, якія захапілі яго ў гэтым грозным шквале рэвалюцыйнага пажару. Ён супрацьпастаўляе дзве сацыяльныя сілы, дзве культуры і псіхалогіі. З аднаго боку — "босыя". Гэта рабочыя і сяляне — вялікая армія людзей, яны адкрыта ідуць на штурм старога ладу, маючы на мэце пабудаваць новы свет, "вялікай будучыні дзень". Другая сіла — клас эксплуататараў: паны з падпанкамі, афіцэры, чыноўнікі, папы, войскі інтэрвентаў, якія супрацьстаяць "босым". Сёння нам добра вядома, што рэвалюцыя з'явілася "вогнішчам", з якога нічога нельга было выратаваць. Сам Чарот у той час яшчэ не здагадваўся пра гэта, але і ён не пабаяўся паказаць рэвалюцыю жорсткай і крывавай: надта ж цяжка пакутаваў народ, спеліў свой гнеў да бесчалавечных парадкаў старога ладу. І вось ён з песняй "Паўстань, хто з голаду век пух!.." узняўся на рашучы бой...

З 1922 г. у школах БССР пачалі выкладаць па-беларуску, шырока загаварылі пра беларусізацыю. Пачаў будавацца — складалася такое ўражанне — Беларускі Дом. Шырока паўстала пытанне аб спадчыне.

Як вядома, важнейшая заканамернасць літаратурнага развіцця — пераемнасць, якая, аднак, на практыцы рэалізуецца па-рознаму, супярэчліва, уключаючы не толькі працяг, але і перагляд, пераацэнку, а часам і адмаўленне спадчыны. Пытанне аб пераемнасці эстэтычных традыцый разумелася па-рознаму. "В наши дни писатель тот, кто напишет марш и лозунг", — сцвярджаў У. Маякоўскі. Але не ўсе так лічылі. Якраз у гэты час Л. Выгоцкі (дарэчы, равеснік М. Чарота, вядомы потым як буйнейшы вучоны-псіхолаг) пісаў: "И белорусской литературе пришла своя пора переносить напевы дудки на рояль. При этом ее главной заботой должно быть: не утерять аромата родимого василька и овладеть сложной музыкой современной поэзии в ее регистрах и темах" ("Полесская правда", N 1075, 1923, 16 снежня). Л. Выгоцкі (у той час ён шмат пісаў па пытаннях беларускай літаратуры і мастацтва) меў рацыю: варта было пераняць у нашаніўскай паэзіі яе задушэўнасць, цеплыню, чалавечнасць, каб яны, на новай аснове, загучалі свабодна, на ўсю сілу голасу. Такога, аднак, не здарылася. У паэзіі, як і ў літаратуры ў цэлым, адбываецца працэс суб'ектывізацыі мастацкага мыслення, на першы план выходзіць экпрэсіўна-драматычны тып перастварэння рэчаіснасці, запанавалі эмацыянальна-"віхравыя", экцэнтрычныя стылі, звернутыя да ўзнаўлення бушуючай жыццёвай стыхіі. Паэзія 20-х гадоў у многім выявілася жорсткімі ідэямі масавага класавага змагання, эстэтызавала і прапаведвала рамантычны культ сілы.

З аднаго боку, бяздушны нівеліруючы калектывізм, з другога — тэндэнцыя да



звярхчалавечага індывідуалізму, што таксама вяло да інфляцыі і абязлічвання чалавечай асобы.

Б. Пастэрнак у лісце В. Шаламаву 9 ліпеня 1952 г. такім чынам характарызаваў 20-я гады: "Надышлі дваццатыя гады з іх фальшам для многіх і перараджэннем жывых душэўных самабытнасцей у механічныя навыкі і схемы..." У імя чаго гэта ўсё рабілася? У імя дасягнення вялікай утапічнай мэты, якую ставілі бальшавікі: перарабіць усё — і грамадства, і гісторыю, і прыроду, і самога чалавека. Той жа Маякоўскі, скажам, палемізуючы з блокаўскай паэмай "Дванаццаць", напісаў сваю "150000000". Маўляў, не 12 рабілі рэвалюцыі, а 150000000, "Россия вся единый Иван", — сцвярджае аўтар.

Касмічным пафасам схематызацыі паэтычнага героя прасякнута паэма-фантазія Чарота "Чырванакрылы вяшчун". Паэзія тут, па сутнасці, зводзілася да ідэалогіі — нястрымнага ўслаўлення ідэі сусветнай рэвалюцыі. Сацыяльнасць, сацыяльныя задачы творчасці ў гэтым выпадку былі зразуметы Чаротам вульгарна, пераважна ў класава-антаганістычным сэнсе.

Чарот і маладнякоўцы (як і Маякоўскі) лічылі, што паэтычная энергія павінна быць скіравана на вынаходства своеасаблівых новых прыёмаў для выяўлення гатовых, агульназначных ідэй, якія існуюць самі па сабе, асобна ад паэзіі. Гэтай паэзіі не ставала таго, што было ў нашаніўцаў, — шчырасці, цеплыні, незмушанасці пачуццяў. Голас Арфея быў прыдушаны сацыяльным заказам, задачамі агітацыі мас. З агітпаэзіі з цягам часу народзіцца прыдворная паэзія — оды, "лісты вялікаму правадыру і інш.

Тым не менш многія паэмы і вершы М. Чарота застаюцца красамоўнымі дакументамі той эпохі. Засталіся ў гісторыі нашай літаратуры паэмы "Беларусь лапцюжная", "Марына", "Карчма", "Дзяўчына, якая не сумуе..."

Паэт быў чалавекам неспакойнай душы, ён усё хацеў бачыць на свае вочы. У сярэдзіне 20-х гадоў ён шмат вандруе па Беларусі, па яе гарадах і мястэчках, у выніку чаго былі напісаны цікавыя нарыс-дзённік "1200 вёрст па Беларусі". Паездкі спрыялі рабоце над іншымі творамі.

Чарот пісаў апавяданні, п'есы, кінасцэнарыі, творы публіцыстыкі. З яго дапамогай у беларускую літаратуру 20-х гадоў шырока ўвайшоў новы эстэтычны матэрыял — аўтамабіль, самалёт, трактар, камуна, заводы і фабрыкі, калгасы, услаўленне калектыўнай працы — усё гэта знаходзіць большы ці меншы адбітак у яго творчасці.

Ля глухой вёскі Венцяры, на вачах яе жыхароў, апусціўся на поле "нявeдамае страшыдла" — самалёт (апавяданне "Самалёт", 1923):

"Некалькі чалавек кінулася ўцякаць у вёску.... Уся грамада разбеглася... Маладыя хлапчукі прыляглі пад мяжою і, як зайцы, бяліся выткнуць вушы.

Самалёт апусціўся на чыстай і гладкай упрацованай авечкамі палосцы, непадалёку, дзе толькі што стаяла грамада.

Два чалавекі вылезлі з самалёта і махалі на сялян шапкамі, каб ішлі да іх...

Ніхто першым не адважваўся..."

Аднак новае, савецкае паступова ўсталёўвалася і ў вёсцы, пра што і расказаў зборнік апавяданняў "Веснаход" (1924), які потым неаднаразова перавыдаваўся. У ім расказваецца пра падзеі, якія адбыліся на Беларусі ў час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, у аднаўленчы перыяд, паказваецца мужнасць працоўнага беларуса, яго стваральная дзейнасць.

Між іншым (пра гэта яшчэ не гаварылася) Чарот-паэт і Чарот-празаік істотна адрозніваюцца паміж сабой. Калі ў вершах ён, аддаючы даніну часу, ігнараваў індывідуальнае як мастацкі прынцып творчасці, то ў прозе, наадварот, прытрымліваўся рэалістычна заглыбленай распрацоўкі канфліктаў і сітуацый і абмалёўкі сваіх герояў.

У 1929 годзе выйшла новая кніга вершаў М. Чарота "Сонечны паход". Перачытваючы яе сёння, можна заўважыць, як узрастае ўвага паэта да адлюстравання таго ўнутранага ў чалавеку, што складае тонкі свет яго душэўных памкненняў у іх рэальным, канкрэтным бытаванні, да адкрыцця сацыяльна значнага ў "сваім", інтымным, да разумення непадзельнасці ўласнага і грамадскага, якое ў лірыцы і праяўляецца толькі як асабістае, непаўторнае, сваё.

У 1924 г. М. Чарот вучыўся ў Маскве, у інстытуце журналістыкі. У адным з маскоўскіх тэатраў у той час месцілася беларуская тэатральная студыя, з якой у Чарота-драматурга былі супольныя інтарэсы. У Маскве ён пазнаёміўся з многімі папулярнымі расійскімі паэтамі, у тым ліку з С. Ясеніным. Пасябраваў з У. Кірылавым, які ўзначальваў вядомую літаратурную групоўку "Кузніцу" (блізкую да "Маладняка"), наведваў яе пасяджэнні, нават удзельнічаў у спрэчках. "Кузніца" стаяла ля асноў РАППа, гэтаксама як "Маладняк" папярэднічаў БелАППу.

"Больш усяго люблю пісаць вершы", — прызнаваўся ён. Аднак пісаў не толькі вершы. Гэта быў чалавек рознабаковага таленту. Некаторы час, на пачатку 20-х гадоў, Чарот нават іграў на сцэне ў тэатры У. Галубка. Але не толькі іграў. Ён напісаў шэраг твораў для тэатра: "Слуцкая варона", "На Купалле", "Сон на балоце", "Мікітаў лапаць" і інш. Па аповесці "Свінапас" М. Чарот сумесна з рэжысёрам Ю. Тарычам стварыў сцэнарый першага беларускага мастацкага фільма "Лясная быль" (1926).

У 20-я гады М. Чарот займаў высокае становішча сярод палітычнай эліты рэспублікі — з'яўляўся кандыдатам у члены (1922-1924) і членам ЦВК БССР (1924-1931). 30-я гады сталі часам згасання "шумлівага" Чарота, адыходам яго ад палітычнай дзейнасці. Ён працуе загадчыкам літаратурнага сектара Дзяржвыдавецтва БССР, кансультантам па рабоце з маладымі аўтарамі ў Саюзе пісьменнікаў.

Трагедыя ўжо набліжалася. Яна заключалася не толькі ў тым, што М. Чарот быў рэвалюцыянерам першага (ленінскага ці якога іншага) прызыву, а найбольш у тым, што ён быў рэвалюцыянерам-адраджэнцам. Такое тагачасная сістэма не даравала.

24 студзеня 1937 г. быў арыштаваны, як і многія ў той час. Паэта палічылі "членам контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацдэмаў". Прысуд — вышэйшая мера пакарання. Рэабілітаваны ў 1956 г.

Любоў і павагу да М. Чарота — паэта і чалавека — засведчылі многія яго сучаснікі. І не толькі сучаснікі, але і нашчадкі.

**Вось каторы ўжо год**
**У мае неспакойныя,**
**У мае несалодкія сны**
**Прыходзіць начамі**
**Пясняр пралетарскі Чарот.**
**То ён бачыцца мне —**
**Малады,**
**кучаравы,**
**вясёлы**
**У кашулі у вышытай**
**Лёгка ідзе па зямлі,**
**І вітаюць яго,**
**Пазнаюць беларускія сёлы...**

*(Н. Гілевіч)*

Імя М. Чарота помніцца. На яго вершы напісаны песні, на тэкст п'есы "На Купалле" створана опера "Кветка шчасця" (кампазітар А. Туранкоў).

У Маладзечне і Рудзенску імем паэта названы вуліцы. Яно высечана таксама на летапісным камені каля вёскі Мясата Маладзечанскага раёна.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

## МУЗЫКАНТ, УНУК МУЗЫКАНТА

**— Ды яшчэ якога! — кажуць людзі, калі гаворка ўсчынаецца пра Міхаіла Маркавіча Какашынскага. — І ўнук дастойны свайго дзеда.**

**Какашынскі — вядомы на Магілёўшчыне баяніст, педагог-музыкант, які даў пуцёўку многім дзецям у свет мастацтва. А яго дзед па маці Міхаіл Арцюхоў быў легендарным гарманістам не толькі ў сваёй вёсцы Іванава Слабада, што на Клімаўшчыне, а і ва ўсёй Магілёўскай губерні. Паслухаць яго любіў сам губернатар і не раз шчодра адорваў Арцюхова за яго класную ігру. Што ж да Клімаўшчыны, то тут людзі лічылі за гонар, калі Арцюхоў граў у іх на вяселлі альбо на хрэсьбінах. Нават запісваліся на чаргу да знакамітага гарманіста. Тым больш, што ў яго была галасістая жонка Матрона, якая ведала шмат песень і ўмела іх спяваць.**

**І дзецям Арцюховых Бог даў звонкі дар. Сыны Павел і Аляксандр урэшце сталі прафесійнымі баяністамі. Жылі і працавалі ў Маскве. Калі яны наведваліся ў родную Іванаву Слабаду і гралі там на вечарынках, то народу збіралася багата, нават прыходзілі хлопцы і дзяўчаты з навакольных вёсак. Дочкі Арцюховых-старэйшых Клаўдзя, Варвара ды Аляксандра пайшлі ў маці — і непаўторным голасам, і добрым сэрцам. Першага ўнучыка назвалі ў гонар дзеда — Мішам.**

**"Я да гэтага часу захоўваю гармонік дзядулі, — кажа Міхаіл Маркавіч. — Нямецкі лад. Голас высокі, чысты, дарма што ўзрост немалы. Ён жа дарэвалюцыйны. Заказны! Дзеду зрабілі гармонік па ягоным таленце".**

**Бацька Міхаіла Какашынскага загінуў на фронце ў Вялікую Айчынную, маці пасля вайны падалася ў Карэлію. Там Міша вучыўся; на армейскай службе асвоіў баян. Потым яго забраў у Маскву дзядзька Павел, выкладчык аднаго з музычных вучылішчаў, уладкаваў хлопца ў вядомую школу імя Стасава па класе баяна. Закончыўшы школу, Міхаіл вырашыў вярнуцца на Беларусь, падаў дакументы ў Віцебскае музычнае вучылішча, скончыўшы якое прыехаў на працу ў Клімавіцкую музычную школу.**

**А потым М. Какашынскага запрасілі дырэктарам музычнай школы ў Чэрыкаў, дзе ён працаваў 10 гадоў.**

**Цяпер выкладае ў Чэрыкаўскай школе мастацтваў. Музыка і песні гучаць і ў яго ным доме. Жонка Міхаіла Маркавіча Аляксандра Кірылаўна Язымава, якая родам з Мілаславіч, суседняй з Іванавай Слабадой вёскі, — дачка гарманіста, што вучыўся ў Міхаіла Арцюхова. Любіць спяваць! Сыны Міхаіл і Аляксандр, названыя так у гонар бацькоў, закончылі музычную школу, служылі афіцэрамі ў дальняй авіяцыі ў Расіі, цяпер жывуць у Беларусі і па-ранейшаму дружаць з баянам. Нярэдка ў доме Какашынскіх збіраецца сямейны ансамбль у поўным складзе: прыязджае з Масквы дзядзька Павел, а яшчэ цёткі, а таксама сёстры Міхаіла Маркавіча Валянціна, Ліда і Зінаіда — адмысловыя пяюхі, дзеці Міша і Шура, — і пачынаецца канцэрт! Гучаць чатыры баяны і галасы людзей, якія наследуюць высокае мастацтва Міхаіла і Матроны Арцюховых, каго помняць людзі і хто стаў легендай на Клімаўшчыне.**

**Кіруе Міхаіл Маркавіч і ансамблем у раённым Доме культуры. Называецца ён прыгожа і сімвалічна: "Надзея"...**

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

## "МАСТАЦТВА", N 10

**Нумар адкрывае артыкул В. Іўчанкі "Арт-рынак Беларусі: праблемы і перспектывы развіцця". Шэраг матэрыялаў прысвечаны 70-годдзю тэатра імя Я. Коласа: "Пачатак. Спроба тэатральнага летапісу" Д. Стэльмах, "Страсці на шляху да цудоўнага жыцця" У. Мальцава, "У прасторы сцэны" Т. Катовіч.**

**Пра творчасць У. Масленікава разважае Г. Фатыхава — "Жывыя традыцыі — творчасць няспынная". "Фелікс Гумен у люстэрку эксперыменту" — згадкі М. Цыбульскага пра творчасць славутага віцебскага акварэліста. Ідэя сонца ў пейзажах Я. Сіпакова — тэма артыкула А. Ігнацёнак "Не можа быць чорнага колеру ў сонца". Т. Мдзівані прапануе штрыхі да партрэта выдатнага адраджэнца — "Шматаблічны Яўген Паплаўскі". Т. Мушынская ("Жорны лёсу, жорны часу...") рэцэнзуе спектакль "Кругабег" на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі.**

**Новыя матэрыялы, што тычацца жыцця А. Абрамовіча, адшукаў Г. Кісялёў — "Залатая падкова, або Радавод кампазітара".**

**Увазе чытача прапануюцца "Анталогія харавой музыкі" К. Сядовай, "Каталіцкія інструментальныя капэлы Беларусі" Т. Ліхач, "Жывое возера" Г. Багданавай, "З дзённіка этнографа" М. Козенкі, "Ткацтва Мядзельшчыны" М. Жабінскай, "Імкнёмся да дыялога — знаходзім паразуменне" М. Баразны, "Мастацтвазнаўчае кіно" Г. Шур.**



# ТВАР КРАІНЫ

ХТО НЕ ВЕДАЕ на Беларусі легендарную Свіцязь! Тут, на Навагрудчыне, узгорыстай, парэзанай невялікімі маляўнічымі рачулкамі Ісай, Мышанкай, Сэрвач, Валоўкай, у басейне левага прытока Нёмана — Моўчадзі, — тысячагоддзямі плюхаецца ў сваіх берагах гэта возера. У яго светлыя воды глядзяцца грабы ды дубы, узносяць увысь пікі-кроны вечназялёныя елкі, чыстыя бары, пранізаныя сонцам, вясной поўняцца птушыным гоманам.

Але найбольш уражвае сама Свіцязь. Амаль круглая катлавіна з шаўкавістай травой па берагах, невысокія хвалькі з белаватымі грыўкамі гладзяць залацісты пясок, лёгкі адвечны пошум лістоты ў гаях.

Людзі паклапаціліся, каб зберагчы гэты непаўторны азёрна-ландшафтны куток Беларусі, арганізавалі тут заказнік "Свіцязянскі". У прыбярэжных лясах не гуляе сякера, сюды забаронена ганяць на выпас жывёлу, і бадай што самае галоўнае — у заказніку нельга праводзіць меліярацыйныя работы, паляваць на дзікіх звяроў і птушак. Так што заказнік "Свіцязянскі" ахаваны ад многіх непажаданых з'яў, якія прыносіць у прыроду чалавек. Яго багацці, будзем мець спадзяванне, захаваюцца і для будучых пакаленняў.

Такіх вось мясцін, якія захапляюць, вабяць да сябе, шмат у нашай сінявокай Беларусі. Непаўторныя азёры Браслаўшчыны ды Ушаччыны, узгорыстыя пераліскі Аршаншчыны, глухія лясы Налібоцкай пушчы, якія прарэзаюць ціхія пакручастыя рачулкі, крутыя стромы Нёмана... На жаль, маляўнічыя куткі не абмінула ні сякера лесаруба, ні каўшы сталёвых экскаватараў, ні гусеніцы цяжкіх бульдозераў. Асабліва ў апошнія дваццаць-трыццаць гадоў яны пахадзілі і на дрыгвяных балотах, пакінулі свае пачварныя сляды ў светлых, смалістых барах, убіліся нават у поймы рэк і рачулак. Сляпая жалезная сіла наступала на прыгажосць, якую прырода стварала тысячагоддзі, люляла і зберагала, парушыла спрадвечную гармонію і суладдзе. Чалавек, узброены тэхнікай, адчуў сябе валадаром на зямлі і з тупой апантанасцю кінуўся перарабляць прыроду, "паляпшаць" яе. Ды таго не ўцяміў у сваёй бяздумнай дзейнасці, што прыроду нельга скарыць, палепшыць, яе можна толькі знішчыць.

Занадта позна людзі адумаліся, ці, прынамсі, пачалі разумець, што нарабілі на сваёй роднай зямлі, спахапіліся ды штокалечы кінуліся ратаваць. Але якім чынам можна вярнуць на ўлонне прыроды рачулку, якая спрадвеку бруілася між лугоў, аздабляла бары? Як безжыццёвы глеісты канал зноў вярнуць да жыцця? Ці ж адновіш у першароднай прыгажосці прырэчны луг, пакрэмзаны нажом бульдозера?

Цяпер відавочна адно: бяздумна парушыўшы спрадвечную гармонію і суладдзе ў прыродзе, чалавек сам жа і пакараў сябе. Рэзкае пагаршэнне экалагічнага становішча, забруджанае паветра, зямля, у якой безліч атруты, спаганеная вада — ці не дарагая плата за людскую хіжасць і бяздумнасць? А сёння ж мы пажынаем толькі першыя плады так званага "цывілізаванага" ўмяшання ў прыроду, яго самую бачную верхавінку. Чалавек яшчэ не ведае, якія катаклізмы ў будучым выбухнуць на Зямлі з-за сваёй жа дзейнасці, як усё гэта адаб'ецца на новых пакаленнях, у прыватнасці, на здароўі.

У наш нялёгкі, супярэчлівы час, калі не хочам застацца без чыстай вады, паветра, не страціць канчаткова ўрадлівасць зямлі, трэба зразумець: сфера аховы прыроды павінна стаць прыярытэтнай. Мы не маем права дазволіць сабе апаганіць асяродак, у якім жывём, бо гэта страта больш страшная за самую разбуральную вайну. Вядома, што сёння мы не маем дастаткова сродкаў і сіл, каб ахаваць усю прыроду. Таму і трэба надаць самую пільную ўвагу не такім ужо вялікім астраўкам, зялёным цудоўным аазісам, дзе размяшчаюцца запаведнікі, заказнікі, іншыя ахоўныя тэрыторыі Беларусі, бо яны ў нейкай ступені — гаранты захавання зялёнага і воднага патэнцыялу, чыстага паветра. І тым ведамствам, якія ахоўваюць гэтыя тэрыторыі, трэба разумець адказнасць, што ўскладзена на іх.

Цяпер на Беларусі 77 заказнікаў рэспубліканскага значэння. Гэта ажно 561,6 тысячы гектараў каштоўных ландшафтаў — лясы, азёры, балоты, рэкі з іх флорай і фаўнай. Менавіта пра іх, заказнікі рэспубліканскага значэння, іх стан, праблемы, і пойдзе гаворка.

Заказнікі рэспубліканскага значэння па сваіх характарыстыках самыя розныя, у залежнасці ад таго, якія адметныя асаблівасці трэба ахоўваць у тым ці іншым раёне: ландшафтныя, гідралагічныя, біялагічныя, паляўнічыя. У кожнай вобласці пад ахову ўзяты тыя тэрыторыі, дзе ёсць свае славутасці, адметныя ў нечым і багатыя куткі. У адных рэгіёнах іх больш, у другіх — менш. Так што работа па арганізацыі новых ахоўных тэрыторый, несумненна, будзе працягвацца, бо гэта адзін з важных аспектаў аховы навакольнага асяроддзя, своеасаблівая аснова для будучых паўнацэнных нацыянальных паркаў і запаведнікаў, поле дзейнасці для вучоных-біёлагаў.

А якія цудоўныя, самабытныя назвы нашых заказнікаў! Не тыя казённыя, фармальныя, якімі яшчэ да нядаўняга часу называлі новыя гарады, пасёлкі, калгасы ды саўгасы, а сакавітыя, народныя, што спакон вякоў тут існавалі. Вымавіш "Стронга", "Ружанская пушча", "Сэрвач", "Пышнагоры", "Выдрыца", "Медухова", "Чорная Ганьча", "Графская пушча", — і адразу павее нечым таемным, загадкавым, што прыйшло да нас з сівой даўніны, і абуджаецца фантазія, і хочацца спазнаць гэты куточак, палюбавацца тутэйшымі краявідамі. Вось такая знітаванасць назваў з гісторыяй народа, яго душой сведчыць, што гэтыя ахоўныя тэрыторыі не штучна створаныя, а быццам сама мудрая прырода наказала людзям ахоўваць іх, клапаціцца пра іх, ды і ганарыцца тым, што маем.

Але калі знаёмішся са станам заказнікаў рэспубліканскага значэння, узнікае пачуццё трывогі, нараджаюцца зусім не рытарычныя пытанні. А ці так, як належыць, мы сёння ахоўваем, беражом сваё зялёнае багацце? Што можна зрабіць, каб адметныя куткі рэспублікі захаваліся навекі? Вядома ж, стан ахоўных тэрыторый адлюстроўвае, як у кроплі вады, хісткае становішча ў эканоміцы краіны, няпэўнасць, якой дарогай крочыць у будучае, ды і нашу заўсёдную бязладнасць, абыякавасць да таго, што не дае неадкладнай выгоды. Было б наіўна меркаваць, што пры крызісе ў эканоміцы, пры заняпадзе культуры і пэўнай размытасці маралі можна навесці парадак у адной якой-небудзь асобнай галіне.

І ўсё ж тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра. Гэта не запатрабуе вялікіх матэрыяльных сродкаў, нейкіх іншых празмерных высілкаў, апрача, хіба што, простай сумленнасці ў выкананні сваіх службовых абавязкаў.

Большасць заказнікаў рэспубліканскага значэння — лясы, тое зялёнае багацце, якое хутка не адновіш. Для гэтага патрэбны сотні гадоў. А змарнаваць яго, растранжырыць можна за лічаныя гады. Агульная плошча лясных заказнікаў — каля пяцісот тысяч гектараў. Такім чынам, Міністэрства лясной гаспадаркі, якое заклікана зберагаць ахоўныя тэрыторыі, з'яўляецца бы манапалістам, якое валодае зялёным багаццем. Ад усіх лясоў дзесяць працэнтаў — гэта заказнікі. Таму вельмі важна, каб лясгасы мелі дакладныя рэкамендацыі па іх захоўванні і выкарыстанні, каб спалучыць дзве задачы: сённяшнюю — ахову, і заўтрашнюю, перспектыўную — развіццё.

На маю думку, многае ўпушчана, не зроблена, часам не надаецца належнай увагі ахоўным участкам у лясах. Мясцовае начальства, відаць, лічыць, што галоўнае паставіць указальныя шчыты на межах, і тады ўсё будзе ў парадку. Але ж нават тыя ўказальныя шчыты ў многіх мясцінах зніклі, альбо калі яшчэ стаяць, то што там пазначана, разабраць цяжка. Як, напрыклад, у гідралагічным заказніку "Балота Мох", што ў Мёрскім раёне, ці ў заказніках "Жыткавіцкі" і "Буда-Кашалёўскі". Зрэшты, вядома, не такая гэта і дробязь — пазначыць межы ахоўнай тэрыторыі, даць людзям інфармацыю пра тое, што тут нельга ні паляваць, ні секчы дрэвы, а ў некаторых выпадках і збіраць грыбы ці ягады. А такія ахоўныя плошчы часам дасягаюць дзесяткаў тысяч гектараў.

У заказніку "Асвейскі", які займае 22,6 тысячы гектараў, ахоўваюцца вадаплаўныя птушкі. Тут ляжыць маляўнічае возера Асвейскае, вакол — лясы, адным словам край, дзе птушкі, звяры павінны былі б адчуць увагу і клопат людзей. Але і тут не абазначаны ахоўныя ўчасткі, быццам гэта радавая тэрыторыя, дзе можна пахадзіць са стрэльбай, выбраць сабе здабычу. І ходзяць. Браканьеры, пачуўшы вольніцу, б'юць і ловяць каштоўных звяроў — баброў і выдраў.

Тое ж самае дзеецца і ў Казьянскім заказніку, што ў Полацкім і Шумілінскім раёнах. Ён арганізаваны ў 1960 годзе. Тут своеасаблівы куток прыроды Беларускага Паазер'я: хваёвыя і бярозавыя лясы доўжацца на дзесяткі кіламетраў, неабсяжныя верхавыя балоты, лясныя рачулкі і ручаі з чыстай крышталёвай вадой. Глухі край прываблівае розную лясную жыўнасць — ласёў, баброў, рысяў, казуль, зайцоў-белякоў, вавёрак-палятух, у нетрах жывуць глушцы, рабчыкі, крыжадзюбы-яловікі, белыя курапаткі. Нават выяўлена гняздо арла-беркута. Сярод мясцовай фауны ёсць прадстаўнікі жывёльнага свету, пазначаныя ў Чырвонай кнізе. Але і тут гаспадараць браканьеры, бо ахова заказніка арганізавана вельмі дрэнна, адсутнічаюць нават шчыты па межах асабліва ахоўных участкаў.

Нярэдка ў заказнікі прыходзяць людзі з сякерамі, знішчаюць самыя лепшыя, каштоўныя дрэвы, якія ўпрыгожваюць лес. Ландшафтны заказнік "Азёры", што ў Шчучынскім і Гродзенскім раёнах, раскінуўся на дваццаці тысячах гектараў. І сюды ўбіліся браканьеры, якія спляжылі дванаццаць дубоў. Кожнаму вядома, што дуб расце вельмі марудна, затое гэта самае моцнае дрэва ў рэспубліцы: можа стаяць сотні гадоў. У сумленнага чалавека ніколі не падымецца рука на гэтага волата, які дорыць сваю прыгажосць дзесяткам пакаленняў людзей. Знішчыўшы сёння такое дрэва, мы пазбаўляем наступныя пакаленні часцінкі зялёнага харастава, адбіраем ад сябе і ад іх свежае паветра.

Ды калі б яшчэ гэта былі адзінкавыя выпадкі! Сякуць лес і на іншых ахоўных тэрыторыях. Падкрэсліваю: на тых, якія афіцыйна названы заказнікамі, дзе гаспадарчая дзейнасць абмежавана.

Часам мясцовыя гаспадарнікі, далёкія ад праблем аховы прыроды, жывуць і працуюць па прынцыпе: зраблю так, як мне выгадна. Скажам, трэба пракласці дарогу — ідуць напрасткі, цераз лес, калі нават гэта ахоўныя ўчасткі заказніка. Так зрабілі ў Мядзельскім раёне. Узнікла патрэба насыпаць новую дарогу. У такіх выпадках паперш робяць экалагічную экспертызу праекта, прыкідваюць, як не пашкодзіць навакольнаму асяроддзю. На Мядзельшчыне ж праігнаравалі розныя там экалагічныя экспертызы, не доўга думаючы, прыгналі тэхніку і пачалі церабіцца напрасткі. Сустрэўся на шляху гідралагічны заказнік "Чарамшыца", тэрыторыя якога, дарэчы, уключана ў будучы нацыянальны парк "Нарачанскі", то і яго не пашкадавалі: вынішчылі лес, рэдкія расліны. Не падумалі і пра тое, што наогул суседства ажыўленай трасы не паспрыяе жыццю звяроў, птушак у заказніку.

Вось так часам гаспадарыць наш чалавек на ахоўных тэрыторыях. Маляўнічыя куткі, насельнікі лесу прыносяцца ў ахвяру гаспадарчай мэтазгоднасці. Нярэдка ў заказнікі гоняць пасвіць жывёлу, якая вытоптвае, знішчае ўсё, што там ёсць, капаюць кар'еры, каб узяць пясок для будаўніцтва. Такое адбываецца на тэрыторыі заказніка "Нізоўе Случы". Хто пабачыў гэтыя мясціны, ніколі іх не забудзе. Асабліва калі праплыць на лодцы да Прыпяці. Случ тут даволі шырокая, да сарака-пяцідзесяці метраў, з глыбокімі вірамі, звілістым рэчышчам, шырокімі плёсамі. Па берагах высяцца дубы-волаты, у ваду глядзяцца вербы, светлыя бары, беразнякі, асіннікі змяняюць адзін аднаго.

Дальбог, цяжка нармальнаму чалавеку зразумець, як можа падняцца рука на гэткую прыгажосць. У той жа пойме Случы за вёскай Вільча па абодва берагі раскінуліся маляўнічыя лугі, на якіх высяцца дубы, каля пратокі і ручаёў вербы. На прадзімаемых вятрамі лугавых і забалочаных прасторах п'яняць пахі лугавых траў. У прыслучанскіх лясах шмат каштоўных лекавых траў, рэдкіх раслін, што занесены ў Чырвоную кнігу.

Але найбольшае багацце кутка над Случчу — дубровы. Чыстыя, без прымесі дубровы займаюць ажно васемнаццаць працэнтаў лясоў! Уявіце, якое гэта багацце і прыгажосць — суцэльны дубовы лес. Па ўзросце гэта прысляваючыя дрэвы, так што ва ўсёй сваёй красе тутэйшы ландшафт можна будзе ўбачыць у будучым.

Наогул, адно цікавае назіранне: колькі б ні хадзіў па пойме, не знойдзеш такога месца, адкуль не было б бачна хаця б некалькі дубоў.

Па складзе і разнастайнасці гаспадарча-карысных раслін флора заказніка можа служыць эталоннай для Прыпяцкага Палесся.

Вось такая яна, ахоўная тэрыторыя, якая носіць назву "Нізоўе Случы". І няма патрэбы даказваць, што тыя, якія губяць яе, няйначай робяць злачынства не толькі супраць прыроды.

Сёй-той, прачытаўшы гэтыя радкі, скажа: ці ж усочыш за ўсімі заказнікамі?! Яны ж

